# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

## ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:











журнал ЦК КП(б)Б

КАСТРЫЧНІК 1935 г. 19

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда"

# ЗМЕСТ




Менск. друкарня «Звязды». Здана ў набор 14-X-35 г. Падпісана да друку 19-X-35 г. Уп. Галоўліт. № 4815. Тыраж 940 экз. 2 друк. арк. У арк. 75.000 знакаў.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

КАСТРЫЧНІК 1935 г. № 19 (43)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК.*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Савецкая, 63



# КАНКРЭТНА ДАПАМАГАЦЬ НІЗАВОЙ ГАЗЕЦЕ

Тав. **А. Гарэлік** — актыўны селькор, рэдактар насценнай газеты калгаса «Чырвоны араты», Мазырскага раёна, прыслаў пісьмо ў рэдакцыю журнала **«Рабоче - крестьянский корреспондент».** Ён скардзіцца на тое, што ніякай дапамогі, ніякага кіраўніцтва ні з боку рэдакцыі раённай газеты **«Калгаснік Мазыршчыны»,** ні з боку работнікаў раённай і рэспубліканскіх газет, якія прыязджаюць у калгас, ён не атрымлівае. Ні аглядаў насценнай газеты на старонках «Калгасніка Мазыршчыны», ні разбору насценных газет на нарадах і злётах селькораў ніколі не бывае.

«Часта прыязджаюць у наш калгас жывыя прадстаўнікі беларускіх рэспубліканскіх газет, раённай мазырскай. Едуць яны звычайна з усялякімі спецыяльнымі заданнямі. Калгас наш — адзін з буйнейшых інтэрнацыянальных калгасаў у раёне. Вывучаюць яны нашу сельскую гаспадарку, культуру, быт. Сядзяць нярэдка па некалькі дзён. У гэтым годзе ў нас некалькі раз быў загадчык аднаго з аддзелаў «Калгасніка Мазыршчыны» тав. **Чарны.** Прыязджаў не раз спецыяльны карэспандэнт «Звязды» тав. **Фралоў.** Але ніхто ніхто з прыязджаючых работнікаў друку не цікавіўся, як працуе наш калгасны друк. Ці выходзіць ён рэгулярна, які яго змест. А якая вялікая карысць была-б і мне, маладому рэдактару, і нашай газеце, калі-б прыязджаючыя к нам спецыяльныя карэспандэнты і адказныя работнікі беларускага друку хоць-бы дзве—тры гадзіны ўдзялялі нізавой газеце».

Так піша тав. Гарэлік у сваім пісьме ў «Рабоче-крестьянский корреспондент».

Пісьмо тав. Гарэліка вельмі паказальнае ў сэнсе характарыстыкі адносін многіх работнікаў раённых і рэспубліканскіх газет да нізавога калгаснага і фабрычна-заводскага друку і рабселькораў. Справа, зразумела, не толькі ў рэдакцыі «Калгасніка Мазыршчыны», не толькі ў тт. Чарным і Фралове.

Мы сёння друкуем некалькі водгукаў рэдактароў нізавых газет і рабкораў з завода імя Варашылава, фабрыкі «Кастрычнік» аб рабоце карэспандэнтаў рэспубліканскіх газет «Рабочий», «Окцябр». Мы друкуем і выпрымкі з адказаў некаторых работнікаў рэспубліканскага друку на пытанне: «Чым вы дапамагаеце пры выездзе на прадпрыемства, у калгас мясцовай шматтыражцы, нізавой газеце, рабселькорам». І водгукі рабселькораў і адказы работнікаў рэспубліканскіх газет гавораць не ў карысць спецыяльных і раз'язных карэспандэнтаў, якія пры выездах у калгас, на завод абмяжоўваюцца толькі выкананнем спецыяльнага рэдакцыйнага задання, а на нізавы друк і рабселькораў не звяртаюць ніякай увагі. Такія карэспандэнты забываюць, што прамым абавязкам кожнага работніка рэспубліканскай газеты з'яўляецца практычная дапамога работнікам нізавога друку, ра-

селькорам у іх рабоце, вучоба гэтых работнікаў. Рэдакцыя газеты абавязана патрабаваць ад кожнага свайго работніка (тым больш ад спецыяльных карэспандэнтаў) пры выездзе ў раён знаёміцца з становішчам і работай нізавога друку і рабселькораў, аказваць ім практычную дапамогу. Пры ацэнцы выканання задання рэдакцыі, ацэнцы работы спецыяльных карэспандэнтаў павінна ўлічвацца і іх дапамога нізавым газетам і рабселькорам. На вялікі жаль, да гэтага часу такіх патрабаванняў сваім работнікам не прад'яўляла ні адна рэспубліканская газета.

Асабліва гэта адносіцца да работнікаў раённых газет. Не можа быць нічога горш такіх чыноўніцкіх, бюракратычных адносін да работы, калі работнік раённай газеты (часамі нават і рэдактар) прыязджае ў калгас па заданню рэдакцыі, ці райкома, гутарыць з старшынёй калгаса, брыгадзірамі, калгаснікамі, арганізоўвае матэрыял, а пра калгасную насценную газету, яе рэдкалегію і селькораў забывае.

І гэта не толькі т. Чэрны з мазырскай газеты. Такіх работнікаў набярэцца нямала. Нам расказалі нядаўна такі факт. Рэдактар жлобінскай раённай газеты тав. **Зуевіч** прыехаў у адзін калгас на свята ў сувязі з уручэннем калгасу акта на вечнае карыстанне зямлёй. Тав. Зуевіч пагаварыў і з старшынёй, і з калгаснікамі, нямала часу прасядзеў у чаканні адкрыцця схода, на сходзе ўрачыста сядзеў у прэзідыуме. Усё гэта добра. А вось часу, каб сабраць селькораў, якія ёсць у гэтым калгасе, рэдкалегію насценнай газеты, пагаварыць з імі аб рабоце, даць некалькі парад, не знайшоў.

Уся бяда ў тым, што ва многіх рэдакцыях раённых газет работа з нізавым друкам і рабселькорамі ўскладзена выключна на інструктара-масавіка. Астатнія работнікі лічаць, што нізавы друк і рабселькоры — гэта не іх справа. А рэдактар газеты не патрабуе ад іх гэтай работы. У выніку мы ў радзе раёнаў маем аслабленне работы з рабселькорамі. Калі ў часе падрыхтоўкі да III усебеларускага з'езда рабселькораў і пасля з'езда мы мелі значнае ажыўленне работы нізавога друку, калі ў часе веснавой сяўбы нізавы калгасны і брыгадны друк адыграваў надзвычайную ролю ў барацьбе за высокі ўраджай, то зараз, у выніку адсутнасці кіраўніцтва работай нізавога друку, рад насценных газет, асабліва ў брыгадах, зусім не выходзяць, або выходзяць вельмі рэдка.

Возьмем такую форму кіраўніцтва і дапамогі нізавому друку, як агляды насценных газет у раённых і шматтыражных газетах. Многія рэдакцыі газет або зусім не скарыстоўваюць гэту форму, або выкарыстоўваюць яе вельмі дрэнна. Аб гэтым сведчаць факты, якія прыводзім мы сёння ў матэрыяле аб аглядах нізавога друку на старонках раённых газет. Аб гэтым сведчаць заявы многіх рэдактароў нізавых газет.

Нарады рэдактароў нізавых газет, рабселькораў у большасці раёнаў апошні час зусім не праводзяцца. Зусім зразумела, што гэта не можа не адбіцца на рабоце нізавога друку і рабселькораў.

Аслабла работа з нізавым друкам і рабкорамі і на некаторых прадпрыемствах. Возьмем хоць-бы швэйную фабрыку «Октябр». У часе падрыхтоўкі да III усебеларускага з'езда рабселькораў на фабрыцы працаваў семінар рэдактароў нізавых газет, праводзіліся нарады, сходы рабселькораў. А зараз гэта работа зусім заняпала, бо партыйны камітэт фабрыкі не звярачае на яе ніякай увагі.

Нізавым друкам і рабселькорамі трэба кіраваць, штодзенна дапамагаць ім. Гэта ведае кожны рэдактар, кожны работнік газеты. Але мала ведаць, трэба рабіць.

Рэдактар раённай газеты абавязан патрабаваць ад кожнага свайго работніка, па якому-б заданню і на які-б тэрмін ён не выязджаў у калгас, абавязкова 2—3 гадзіны, а то і больш удзяліць насценнай газеце і селькорам. Сабраць членаў рэдкалегіі і селькораў, разабраць газету, указаць памылкі, расказаць, што і як трэба зрабіць, а калі неабходна, то і дапамагчы гэта зрабіць. Абмеркаваць з селькорамі іх работу, расказаць як пісаць, наштурхнуць іх на новыя тэмы, новыя пытанні, якія

трэба ўзнімаць праз газету. Такая работа ўваходзіць у абавязак кожнага работніка газеты.

Зусім зразумела, што гэтым не вычэрпваецца кіраўніцтва і дапамога нізавому друку. Сістэматычныя агляды нізавых газет на старонках раённых і шматтыражных газет, прычым агляды не па прынцыпу «аб усім па крысе», а глыбокія, вучэбныя, на якіх маглі-б навучацца рэдактары насценных газет. Нарады рэдактароў нізавых газет з вусным разборам адной-двух газет, з разборам вопыту работы той ці іншай газеты. Куток у раённай газеце «Ў дапамогу нізавому друку» з кансультацыяй для рэдактароў па таму ці іншаму пытанню. Аддзельчык у газеце «Па старонках нізавых газет», у якім-бы караценька паказвалася лепшая ініцыятыва нізавога друку — ды ці мала яшчэ форм кіраўніцтва і дапамогі нізавому рэдактару можа прымяняць любая раённая і шматтыражная газета?

У сувязі з падрыхтоўкай да III рабселькораўскага з'езда і пасля з'езда ў радзе раёнаў былі арганізаваны семінары рэдактароў нізавых газет і селькораў. Зараз гэтыя семінары ў пераважнай большасці раёнаў не працуюць. Не праводзяцца і кароткатэрміновыя курсы — злёты рэдактароў і членаў рэдкалегій... А пытанне аб сур'ёзнай вучобе, аб падрыхтоўцы кадраў для нізавога калгаснага друку стаіць зараз вельмі сур'ёзна. Нельга ні на адну хвіліну забываць пра ўсё ўзрастаючы культурны ўзровень калгасніка, які прад'яўляе зараз павышаныя патрабаванні не толькі да раённай газеты, але і да сваёй калгаснай, брыгаднай насценкі.

Тут на дапамогу раённай газеце ў справе падрыхтоўкі кадраў нізавога друку прыходзяць завочныя курсы, якія праводзіць «Крестьянская газета».

Асобныя раённыя газеты БССР (аршанская, тураўская, дрысенская, клімавіцкая, плешчаніцкая) ужо маюць вопыт арганізацыі завочнай вучобы рэдактароў нізавых газет. Там, дзе і рэдакцыя раённай газеты, і райком партыі сур'ёзна падышлі да арганізацыі гэтай справы, там завочная вучоба дала багатыя вынікі. Варта ўспомніць хоць-бы вопыт аршанскай газеты, якая прапусціла праз завочныя курсы «Крестьянской газеты» звыш 90 рэдактароў і селькораў, якая правільна арганізавала кансультацыю для завочнікаў. А ў выніку калгасныя насценгазеты, якія рэдагавалі слухачы завочных курсаў, пачалі працаваць значна лепш.

Зараз «Крестьянская газета» праводзіць новы набор завочнікаў. Газеты БССР пакуль што вельмі слаба ўключаюцца ў гэту справу. 15 кастрычніка павінна быць распачата вучоба завочнікаў, а слухачы падабраны толькі ў частцы раёнаў. У аддзеле друку ЦК КП(б)Б ёсць весткі аб падборы завочнікаў толькі з 20 раёнаў. Гэта сведчыць, што многія рэдактары раённых газет недаацэньваюць справу падрыхтоўкі кадраў нізавога друку, паўтараюць памылку карманскай, капыльскай, старобінскай газет, якія вясной правалілі завочную вучобу рэдактароў калгасных насценгазет.

Вучобу рэдактароў насценных газет і рабселькораў трэба арганізаваць. За гэту справу ў першую чаргу адказвае рэдакцыя раённай газеты. Трэба сур'ёзна падыйсці к падбору завочнікаў, вылучэнню кансультантаў, арганізацыі кансультацыі і канферэнцыій завочнікаў.

Добра арганізаваная завочная вучоба разам з арганізацыяй семінараў, кароткатэрміновых курсаў, нарад, сістэматычнымі аглядамі нізавога друку на старонках газет і штодзеннай практычнай дапамогай калгаснаму і брыгаднаму рэдактару ўзніме палітычны і культурны ўзровень, кваліфікацыю кадраў нізавога друку, а значыць узніме на вышэйшую ступень работу нізавога друку.

# ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

## АБ УДЗЕЛЕ ГАЗЕТ „ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ“ І „ЛЕНІНСКІ ПРЫЗЫЎ“ У СПРАВЕ ВЫДАЧЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ АКТАЎ НА ВЕЧНАЕ КАРЫСТАННЕ ЗЯМЛЕЙ

Не гледзячы на тое, што ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 13 верасня абавязаў раённыя газеты шырока асвятляць увесь ход работы па ўручэнню дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй калгасам, газеты «Ленінскі шлях», Горацкага раёна, і «Ленінскі прызыў», Аршанскага раёна, праявілі поўнае неразуменне сур'ёзнейшага палітычнага значэння мерапрыемстваў па выдачы актаў і фактычна не прынялі амаль ніякага ўдзелу ў гэтай рабоце.

Газета «Ленінскі шлях» абмежавалася адной заметкай ад 21 верасня, хоць з 17 па 30 верасня ў Горацкім раёне выдана 26 актаў; таксама палітычна бяззуба ў гэтай важнейшай справе праявіла сябе і газета «Ленінскі прызыў», да 3 кастрычніка не даўшы ні адной заметкі ў той час, як к гэтаму дню па Аршанскаму раёну было выдана калгасам 18 актаў.

ЦК лічыць зусім недапушчальнымі такія адносіны рэдакцый газет «Ленінскі шлях» і «Ленінскі прызыў» да такой палітычна-сур'ёзнай справы, як выдача дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй калгасам, і пастанаўляе:

Намесніку рэдактара газеты «Ленінскі шлях» т. Слуцкіну і рэдактару газеты «Ленінскі прызыў» тав. Дамарацкаму абвясціць вымову, абавязаўшы іх у далейшым шырэй і палітычна астрэй асвятляць ход уручэння дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй калгасам.

ЦК звярачае ўвагу горацкага і аршанскага райкомаў КП(б)Б на тое, што з іх боку слаба ажыццяўляецца кіраўніцтва і нагляд за работай раённага друку, і абавязвае ў бліжэйшы-ж час выправіць гэты недахоп у сваёй рабоце.

Абавязаць аддзел друку ЦК праверыць рад раённых газет пад кутом гледжання ўдзелу іх у асвятленні ходу выдачы дзяржаўных актаў калгасам.

# *СПРАВА НАЙВЯЛІКШАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ВАЖНАСЦІ*

□ □ **А. ЦЫПІНА.** □ □

«У Сенненскім раёне толькі 23 жніўня прыступілі да землеўпарадкавання калгасаў, прычым на гэтай рабоце заняты адзін землеўпарадкавацель. Не цяжка ўявіць калі ён закончыць землеўпарадкаванне калгасаў раёна. Дарэчы, у гэтым-жа раёне, дзе 174 калгасы, зарэгістравана ўсяго 11 статутаў».

Гэта адна фактычная даведка, якая характарызуе ход падрыхтоўкі да ўручэння калгасам актаў на вечнае карыстанне зямлёй у Сенненскім раёне ў пачатку верасня.

А вось другая:

«Каморнік Рабцоў прабуе ўласнай персонай вырашаць складаныя зямельныя спрэчкі паміж калгасамі. Напрыклад, калгасы «Ульянавічы» і «Заможша» спрачаюцца за адзін участак пахаці плошчай 10 гектараў. Каморнік Рабцоў рашае адрэзаць гэты ўчастак калгасу «Ульянавічы» і не толькі запісвае гэта ў праект, але і ставіць ужо межавыя слупы».

Не думайце, што гэта вытрымкі з матэрыялаў сенненскай раённай газеты **«Комунар»**. Першая вытрымка — з выступлення **«Праўды»—«У Беларусі правальваюць землеўпарадкаванне калгасаў»**, **другая** — з артыкула **«Звязды»—«Грубыя скажэнні пры землеўпарадкаванні»**.

Сенненскі «Комунар» у нумары ад 5 верасня перадрукаваў выступленні «Праўды» і «Звязды», але ніякіх вывадаў для сябе з гэтых сур'ёзных палітычных сігналаў не зрабіў.

Як і да 5 верасня, у **«Комунары»** няма ні аднаго матэрыялу аб ходзе землеўпарадкавання калгасаў, рэгістрацыі статутаў — словам, няма нічога аб падрыхтоўцы да адказнейшай палітычнай справы — уручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

А ў раёне пачалося ўжо ўручэнне актаў. 2 кастрычніка газета адводзіць усю першую паласу ўручэнню актаў калгасам «Ульянавічы» і «Мар'янава».

**«Калгасы «Ульянавічы» і «Мар'янава» першымі ў раёне атрымалі дзяржаўныя акты на вечнае карыстанне зямлёй»** — урачыста абвяшчае газета. З найвялікшай дакладнасцю апісвае «Комунар» і парадак прыезду гасцей, і прыбыццё духавога і струннага аркестраў, драмгуртка і т. д. Але газета не палічыла патрэбным даць у гэты дзень хаця-б невялічкі перадавы артыкул аб сталінскім статуце сельскагаспадарчай арцелі, аб значэнні актаў на вечнае карыстанне зямлёй. А гэта-ж **першыя** два акты, уручаныя ў раёне! Газета не палічыла патрэбным паказаць шырока ўсёй калгаснай Сенненшчыне гэтыя калгасы, якія першымі ў раёне атрымалі акты на вечнае карыстанне зямлёй.

Да канца 1935 года акты павінны быць уручаны 14 калгасам раёна, астатнім калгасам — у 1936 годзе. Як ідзе падрыхтоўка да гэтай важнейшай справы рэдакцыю «Комунара» не цікавіць. Яна чакае, пакуль яшчэ некалькі калгасаў будуць атрымліваць акты, каб зноў «апісаць» на старонках газеты, як прайшла ў калгасе гэта вялікая гістарычная падзея.

* * *

22 верасня атрымаў акт на вечнае карыстанне зямлёй калгас імя Леніна, Войхапскага сельсовета, Гарадокскага раёна. Гарадокская раённая газета **«Калгасная праўда»** адзначыла гэты гістарычны для калгаса дзень невялікім, поўхранікёрскім артыкулам у нумары ад 25 верасня.

1 кастрычніка ўручан акт калгасу «Новыя баравыя». Зноў такі-ж артыкульчык у газеце (№ ад 9 кастрычніка).

І гэта ўсё, што газета палічыла неабходным прысвяціць такой вялікай палітычнай справе, як рэалізацыя важнейшага пункта сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі — замацаванню за калгасамі зямлі навечна.

* * *

Не толькі сенненская і гарадокская газеты не зразумелі ўсяго палітычнага значэння справы ўручэння актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Памылкі гэтых газет паўтараюць і бешанковіцкі **«Сталінец»** і **«Калгаснік Любаньшчыны»** і многія іншыя раённыя газеты БССР.

Гэтымі днямі бюро ЦК КП(б)Б вынесла спецыяльнае рашэнне аб удзеле аршанскай і горацкай газет у справе выдачы дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй. Бюро ЦК адзначыла поўнае неразуменне ўказанымі газетамі сур'ёзнейшага палітычнага значэння гэтай справы. За тое, што горацкая і аршанская газеты не прынялі амаль ніякага ўдзелу ў справе падрыхтоўкі і выдачы дзяржаўных актаў, рэдактару «Ленінскага прызыву» тав. **Дамарацкаму** і намесніку рэдактара «Ленінскага шляху» тав. **Слуцкіну** бюро ЦК абвясціла вымову.

Рашэнне ЦК—сур'ёзнае папярэджанне для ўсіх рэдакцый раённых газет БССР. Газеты павінны пільна сачыць за ходам падрыхтоўкі да выдачы калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй. Нельга забываць, што перад уручэннем актаў праводзіцца велізарная работа па землеўпарадкаванню калгаса, устанаўляюцца дакладна межы калгасных зямель, складаюцца планы гэтых зямель, вырашаюцца асобныя зямельныя спрэчкі паміж калгасамі, устанаўляюцца межавыя слупы.

Гэта работа звязана з падрыхтоўкай кадраў землеўпарадкаваццеляў, мершчыкаў, чарцёжнікаў, з стварэннем ім адпаведных умоў для работы ў самім раёне, у калгасах (прадастаўленне рабочай сілы, сродкаў перасоўвання, кватэр, харчавання).

Газеты абавязаны ўзяць пад свой нагляд гэту работу, асвятляць яе на сваіх старонках, рашуча выкрываць усялякія скажэнні пры землеўпарадкаванні калгасаў.

Уручэнне дзяржаўных актаў непарыўна звязана з рэгістрацыяй статутаў калгасаў, бо акты выдаюцца толькі калгасам, зарэгістраваўшым свае статуты. Значыць, газеты павінны сачыць і асвятляць ход рэгістрацыі статутаў.

Нарэшце, выдача дзяржаўных актаў звязана з вялікай масава-растлумачальнай работай у калгасах вакол сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, значэння замацавання за калгасамі зямлі навечна. Асвятляць гэту масавую работу ў калгасах, разгарнуць яе на старонках газеты, звязваючы прапаганду і асвятленне ходу выдачы дзяржаўных актаў з мабілізацыяй калгасных мас на ажыццяўленне кожнага пункта сталінскага статута калгаснага заможнага жыцця, на паляпшэнне работы калгаса — такая задача газеты.

Шырэй, і галоўнае, **палітычна астрэй** асвятляць ход уручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй — да гэтага абавязвае ўсе раённыя газеты рашэнне бюро ЦК КП(б)Б



Будаўніцтва канала Масква—Волга. НА ЗДЫМКУ: вопытны ўчастак канала каля Дзімітрава, даўжынёй у 1 кілометр 100 метраў.

# Стаханаўскі рух і друк

□□ **Міх. Рабіновіч.** □□

Забойшчык шахты «Цэнтральная Ірміно», Кадзіеўскага раёна (Данбас), Алексей **Стаханаў** напярэдадні Міжнароднага юнацкага дня ўстанавіў усесаюзны рэкорд прадукцыйнасці совецкага адбойнага малатка. За 6 гадзін ён выбурыў 102 тоны вугалю.

Прыкладу Стаханава вельмі хутка паследвалі іншыя шахцёры-ўдарнікі, і рух за максімальную прадукцыйнасць механізмаў у шахтах, за выкананне планаў вуглездабычы пачаў перарастаць у рух усіх шахцёрскіх мас. З'явіліся новыя рэкорды, разгарнулася спаборніцтва паміж майстрамі забою.

У чым сакрэт поспеху Стаханава, Дзюканава, Бабкова, Канцэдалава, Саўчанка і інш.? У тым, што ў іх руках — руках вопытных работнікаў — механізм працуе поўнасцю ўвесь рабочы дзень, у тым, што яны ўзяліся сур'ёзна за асваенне тэхнікі, за тое, каб выціснуць з яе ўсё, што можна.

Вось чаму прыклад стаханаўцаў зараз падхоплен ва ўсёй нашай краіне. З вугольнага Данбаса рух перакінуўся на многія іншыя галіны прамысловасці і народнай гаспадаркі.

Рабочы фабрыкі «Скороход» у Ленінградзе тав. **Сметанін** за змену абцягнуў 1.820 пар абутку, перакрыўшы рэкорды вядомай чэхаславацкай фабрыкі Баці. Кавалі **Бусыгін** і **Велікжанін** на аўтазаводзе імя Молатава ў Горкім установілі рэкорды, якія перавышаюць амерыканскія нормы.

Машыніст паравоза «ФД» № 20—5 станцыі Красный Лиман т. Бароўка даў новую рэкордную тэхнічную хуткасць на Данецкай чыгунцы — 50,5 кіламетраў.

Рабочы першага цэха менскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча тав. **С. Розенберг** вырабіў на цвікоўцы паскоў за 7 гадзін 1.212 пар ці 303 проц. задання. Зацяжчык **Г. Скабло** зацягнуў 1.200 пар абутку — 249,8 проц. плана.

Калгаснікі-ўдарнікі Бела-Калітвенскага раёна, Азова-Чорнаморскага края, пастанавілі разгарнуць спаборніцтва звеннаў на пад'ём зябліва. Па рашэнню раённага злёта калгаснікаў-ударнікаў двум лепшым звенням, якія пакажуць найвышэйшую прадукцыйнасць і выдатную якасць, будзе нададзена імя Стаханава і Ізотава.

Соцыялістычнае спаборніцтва заўсёды з'яўлялася асновай нашай работы як у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, так і ва ўсіх галінах і на ўсіх участках нашага будаўніцтва. Соцыялістычнае спаборніцтва з'явілася магутным сродкам выканання задач першай пяцігодкі.

Але, як вядома, таварыш **Сталін** яшчэ ў сваім дакладзе на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) 7 студзеня 1933 года паставіў задачу дапоўніць пафас будаўніцтва пафасам асваення:

«У першай пяцігодцы мы змаглі арганізаваць энтузіязм, пафас **новага будаўніцтва** і дабіліся рашаючых поспехаў. Гэта вельмі добра. Але цяпер гэтага недастаткова. Цяпер гэту справу павінны мы дапоўніць энтузіязмам, пафасам **асваення** новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным падняццем прадукцыйнасці працы, сур'ёзным скарачэннем сабекошту».

Мы ўступілі ў новы этап соцыялістычнага спаборніцтва — спаборніцтва на асваенне новай тэхнікі, машын, абсталявання. Іменна гэтым выдатны стаханаўскі рух і ў гэтым яго велізарнае значэнне. Іменна на гэтай прычыне рух з прыкладу адзіночак-рэкардсменаў перарастае ў рух усіх мас працоўных.

У сувязі з гэтым стаяць вялікія задачы перад нашым друкам, у прыватнасці, перад раённым і фабрычна-заводскім. Друк павінен звярнуць максімум увагі на новы ўздым соцыялістычнага спаборніцтва за асваенне тэхнікі, за высокую прадукцыйнасць працы.

Аднак, на практыцы пакуль яшчэ справа абстаіць інакш. За прыкладамі не трэба далёка хадзіць.

У цэхах гомельскага завода **«Пралетарый»** нямала перадавікоў вытворчас-

ці, якія паказваюць выдатныя ўзоры работы.

Фармоўшчык ліцейнага цэха т. **Васільеў**, які нядаўна вылучан майстрам, у ліпені выканаў сваё заданне на 150, а ў жніўні на 120 проц. Браку ў яго няма. За высокую якасць работы Васільеў за ўказаныя два месяцы атрымаў некалькі прэмій. Тав. Васільеў — вопытны кваліфікаваны рабочы. Ён працуе добра таму, што адносіцца вельмі ўважліва да работы, многа ўвагі аддае інструментам.

У гэтым-жа цэху працуе фармоўшчык **Яськоў**, які таксама дае высокія паказальнікі і такую-ж якасць работы.

У механа-зборачным цэху завода токар **Гармель** выконвае заданне па выпуску дэталей па 160—170 проц.

Але паказу вопыту работы перадавікоў нельга знайсці на старонках заводскай газеты **«Чырвоная вагранка»**.

Газета ў сувязі з падрыхтоўкай да 18 гадавіны Октября надрукавала на сваіх старонках абавязацельствы калектыва рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых завода. Самае галоўнае з гэтых абавязацельстваў — закончыць выкананне гадавога плана да 15 лістапада.

Аднак, рэдакцыя шматтыражкі, як відаць, не разумее, што для таго, каб выканаць як гэтыя, так і іншыя абавязацельствы неабходна ўзняць соцыялістычнае спаборніцтва на новую, вышэйшую ступень, скарыстаць і памножыць вопыт лепшых перадавікоў вытворчасці.

Майстар мадэльнага цэха тав. **Абрамаў** некалькі месяцаў таму назад унёс важную рацыяналізатарскую прапанову. Прапанова была адобрана і прынята, т. Абрамаву выплачана прэмія. Але рацыяналізатарская прапанова не рэалізуецца. І вось пра гэта шматтыражка змяшчае ў нумары ад 1 кастрычніка заметку... У канцы апошняй старонкі.

Часамі газета змяшчае матэрыял аб людзях. Больш правільна будзе сказаць, што не часамі, а аднаго разу шматтыражка (у нумары ад 11 жніўня) змясціла маленькую заметку на 20 радкоў аб вопыце работы аднаго з лепшых зборшчыкаў помпы «Вертынгтон». Заметка была надрукавана петытам унізе на апошняй старонцы.

Прыклад з «Чырвонай вагранкай» не адзіны. І гэта недапушчальнае з'явішча.

Трэба на фабрыцы, заводзе, у саўгасе і калгасе **выявіць** сваіх стаханаўцаў. На прыкладзе завода «Пролетарый» мы бачым, што гэта не так цяжка. Патрэбна толькі жаданне і ўважлівыя адносіны да людзей.

Але вось газета знайшла такога чалавека.

Трэба самым дакладным чынам вывучыць вопыт перадавіка, метады яго работы і паказаць іх у газеце. Паказ павінен быць у вышэйшай ступені талковым, папулярным і граматна напісаным. Задача заключаецца ў тым, каб гэты вопыт і метады работы зрабіць набыткам усіх рабочых прадпрыемства, усіх калгаснікаў.

Пачын, ініцыятыву перадавікоў газета павінна ператварыць у рух мас. Арганізацыя спаборніцтва паміж асобнымі майстрамі, брыгадамі, цэхамі на асваенне дасягнутых рэкордаў, на новыя рэкорды — вось што зробіць рух сапраўды масавым і прынясе новыя перамогі ў галіне асваення тэхнікі і падняцця прадукцыйнасці працы.

Газета зробіць палову справы і менш таго, калі не забяспечыць патрэбнага, сістэматычнага падтрымання стаханаўскага руху на сваім прадпрыемстве, у калгасах раёна. Трэба ўвесь час сачыць за работай перадавікоў і сістэматычна дапамагаць ім.

Ні ў якім выпадку нельга забываць, што ўсюды могуць знайсціся абываталі або прама варожыя нам людзі, якія будуць сабатаваць і зрываць выдатную справу. Гэтым сабатажнікам і чужакам трэба даць бязлітасны адпор.

У барацьбе за пафас асваення ўзнімем на соцыялістычнае спаборніцтва новыя і новыя масы працоўных, забяспечым пераможнае выкананне задач другой пяцігодкі.

## ПАРТЫЙНЫ АДДЗЕЛ У ГАЗЕЦЕ

# БЕЗ ПЛАНА І БЕЗ АКТЫВА

**С. СЯМАШКА.**

Вазьміце кампл*е*кт бабруйскай раённай газеты **«Комуніст»**, прагледзіце кожны яе нумар і ў вас створыцца ўражанне, што газета нядрэнна асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, нядрэнна дапамагае раённай партарганізацыі ва ўзняцці ўнутрыпартыйнай работы. Амаль у кожным нумары газеты вы знойдзеце артыкулы і допісы аб працы асобных нізавых партыйных арганізацый.

Шмат месца газета адводзіць пытанням партыйнай асветы. У нумарах за першую палову кастрычніка, апрача дробных допісаў, змешчана некалькі папулярных артыкулаў, у якіх перадаецца вопыт работы па партасвеце. Вось, напрыклад, у нумары за 6 кастрычніка кіраўнік кандыдацкай школы завода імя Кірава тав. Шмідт расказвае, як ён падцягвае адстаючых у вучобе. Ён гаворыць, што

> «тав. Норкін, у мінулым праведзеным камісіяй па чыстцы з кандыдатаў партыі ў спачуваючыя, патрабаваў асаблівай увагі. Асобна з ім прапрацоўваў я некаторыя пытанні. Выклікаў яго ў партком, гутарыў з ім, сачыў за тым, як ён працуе над сабой. З партыйнай групай цэха мы дамовіліся паставіць яго індывідуальны адчот на партгрупе, былі таксама ў яго дома, правяралі, як ён усвайвае статут і праграму партыі. Зараз т. Норкін на многа падцягнуўся і цяпер падаў заяву аб пераводзе яго з спачуваючых у кандыдаты».

Змясціўшы гэты матэрыял, газета дапамагла астатнім нізавым партарганізацыям, а таксама і прапагандыстам у арганізацыі партыйнай асветы; на жывых фактах газета паказала, як канкрэтна падыходзіць да слухачоў партшколы для таго, каб забяспечыць высокую якасць вучобы.

Але прагледзіце глыбей кампл*е*кт газеты «Комуніст». Вы ўбачыце, што амаль усе матэрыялы аб партыйнай рабоце — гэта матэрыялы аб партыйных арганізацыях горада. Перад вамі міжвольна паўстае пытанне: чаму гэта на старонках «Комуніста» так слаба паказваецца работа вясковай партарганізацыі? Чаму такі рэзкі кантраст паміж асвятленнем партработы ў горадзе і партработы ў вёсцы?

Для таго, каб знайсці адказ на гэтыя пытанні, неабходна заглянуць у рэдакцыю газеты, пазнаёміцца з работай партыйнага аддзела газеты, з людзьмі, якія працуюць у гэтым аддзеле.

І вось мы ў партаддзеле «Комуніста».

Тут зараз працуюць два чалавекі: намеснік загадчыка аддзела тав. **Марклін** (комуніст) і інструктар тав. **Гофман** (комсамолец). Загадчык аддзела таварыш Гольштэйн больш месяца адсутнічае, быў у арміі, зараз у водпуску.

Значыць, у партаддзеле газеты тры работнікі, і не слабыя. Не кожная з нашых раённых газет БССР мае па тры такія работнікі, тым больш у адным аддзеле.

І ўсё-ж газета «Комуніст» далёка няпоўна асвятляе на сваіх старонках работу ўсёй раённай партыйнай арганізацыі і асабліва партработу на вёсцы. Зусім слаба паказваецца авангардная роля комуністаў на вытворчасці, няма паказу комуніста ў быту, у сям'і.

Адным словам **няма паказу жывога чалавека-комуніста** на старонках газеты.

Дзе прычына гэтаму?

Асноўная і галоўная прычына ў тым, што таварышы не ўмеюць як след арганізаваць сваю работу. Партаддзел **не**

**мае плана работы, не мае актыва карэспандэнтаў з ліку комуністаў.** Таварышы з партаддзела «Комуніста» не ведаюць, напрыклад, якія асноўныя пытанні партыйнага жыцця яны будуць асвятляць на старонках газеты ў кастрычніку.

На пытанне — колькі партаддзел мае сваіх карэспандэнтаў, тав. Марклін ледзь налічыў 6 чалавек. Усяго толькі пяць комуністаў, якія больш-менш рэгулярна пішуць у газету аб партыйным будаўніцтве. Прычым, з пералічаных таварышоў ні аднаго няма з вясковых нізавых партарганізацый. Няма ніякай перапіскі аддзела са сваімі карэспандэнтамі, няма і інструкцыйных парад па пытанню арганізацыі матэрыялу аб жыцці і працы партарганізацый.

Вось чаму і тав. Марклін, і тав. Гофману так многа прыходзіцца бегаць кожны раз па гораду для збірання матэрыялу ў чарговы нумар газеты. Вось чаму гэтыя таварышы, замест кіраўнікоў і арганізатараў справы, з'яўляюцца ў большасці сваёй зборшчыкамі матэрыялаў і праўшчыкамі таго, што напіша хто-небудзь па сваёй ініцыятыве з кіраўнікоў партарганізацый прадпрыемстваў.

На 17 з'ездзе партыі тав. **Сталін** высунуў перад партыяй наступныя задачы ў галіне арганізацыйнай работы:

«1) Падганяць і ў далейшым нашу арганізацыйную работу да запатрабаванняў палітычнай лініі партыі;

2) Падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва;

3) Дабіцца таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечвала праводзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі».

Выходзячы вось з гэтых указанняў правадыра, трэба будаваць работу партаддзела ў газеце. Трэба арганізаваць справу так, каб газета сапраўды з'яўлялася баявым памочнікам раённай партарганізацыі ва ўзняцці ўнутрыпартыйнай работы. Паказ авангарднай ролі комуніста на вытворчасці, шырокі абмен вопытам партыйнай работы як гарадскіх, так і вясковых партарганізацый — прамы абавязак партыйнага аддзела.

Выключная ўвага — ідэйна-палітычнаму выхаванню партыйных мас. У гэтай справе нельга абмяжоўвацца толькі апісаннем работы асобных партшкол і палітгурткоў. На старонках газеты павінен быць дан шырокі паказ таго, як асобныя комуністы працуюць над сабой, як яны павышаюць свой ідэйна-палітычны ўзровень. Асаблівая ўвага павінна быць аддана рабоце комуністаў-адзіночак у калгасах. У цэнтры работы партаддзела газеты павінен стаяць жывы чалавек — член і кандыдат партыі.

Газета «Комуніст» мае ўсе магчымасці шырока асвятляць на сваіх старонках жыццё і працу раённай партарганізацыі. Партаддзел газеты ўкамплектован добрымі энергічнымі таварышамі. Бабруйская партарганізацыя мае вялікі партактыў, які можа і павінен быць прыцягнут да супрацоўніцтва ў газеце. Але для гэтага неабходна, каб партыйны аддзел газеты меў канкрэтны план сваёй работы, стварыў актыў комуністаў-карэспандэнтаў вакол газеты.

Работнікам партыйнага аддзела патрэбна дапамога. І дапамога гэта павінна быць аказана перш за ўсё з боку самога рэдактара газеты.

А ў «Комуністе» далёка не ўсё добра абстаіць з гэтым. Адказны рэдактар тав. **Столін** больш двух месяцаў толькі падпісвае газету, а ў рэдакцыю рэдка калі заходзіць. Бабруйскі райком партыі, як відаць, лічыць, што для рэдактара не абавязкова работа ў рэдакцыі, варта толькі ў кожным нумары газеты ставіць яго подпіс. Бо факт-жа, што РК КП(б)Б фактычна зрабіў рэдактара асноўным работнікам райкома. Перагружаны работай у РК, тав. Столін фізічна не можа хоць-бы колькі-небудзь аддаваць увагі газеце. Гэта адбіваецца не толькі на рабоце партыйнага аддзела, але і на ўсёй рабоце газеты.

Зусім зразумела, што такое становішча далей заставацца не можа. Рэдактар павінен мець магчымасць поўнасцю аддацца рабоце ў газеце. І гэту магчымасць бабруйскі РК абавязан яму даць.

РАБОТНІКІ ЦЭНТРАЛЬНАГА ДРУКУ АБАВЯЗАНЫ ДАПАМАГАЦЬ НІЗАВОЙ ГАЗЕЦЕ І ЯЕ РАБСЕЛЬКОРАМ

# ШТО ПАКАЗАЛА НАША ГУТАРКА

Рэдакцыя журнала **«Большэвіцкі друк»** звярнулася да некалькіх работнікаў усебеларускіх газет з пытаннем, як яны дапамагаюць нізавому друку і рабселькорам. Апытаны былі тыя работнікі, якія часта выяжджаюць у раёны і на прадпрыемствы.

Адказы, атрыманыя намі, малююць карціну далёка не ўцяшальную.

Возьмем тав. **Додзіна,** работніка рэдакцыі **«Звязды».** Увесь час работы ў рэдакцыі ён звязан з частымі камандыроўкамі, пераважна на чыгуначныя вузлы.

У тав. Додзіна запыталі:

— Ці ведаеце вы хоць адну нізавую насценгазету на транспарце?

Адказам было здзіўленае маўчанне. Тав. Додзін папрасіў суткі для таго, каб «прыпомніць» хоць-бы адзін факт яго канкрэтнай дапамогі нізавой насценгазеце, хоць-бы адно прозвішча рэдактара. Прышлося т. Додзіну абмежавацца агульнымі словамі:

— А як-жа, дапамагаю. Дапамагаю. Без гэтага нельга...

Такі-ж характар насіла наша гутарка і з тав. **Гасманам** («Звязда»). Тав. Гасман поўгадзіны думаў над тым, што адказаць на пытанне: каго з рэдактароў насценных газет ён ведае? Нарэшце, успомніў:

— Ёсць. Ведаю аднаго рэдактара. Год таму назад я быў у рэдактара насценгазеты Асіповіцкага паравознага дэпо. Прозвішча рэдактара здаецца Гурэвіч...

Больш да гэтага т. Гасман нічога дадаць не мог.

Нічога новага не ўнесла і гутарка з т. **Ліўшыц** («Звязда»). Па словах т. Ліўшыц, яна не магла ў часе выездаў у раёны дапамагчы рэдкалегіям насценгазет таму, што езьдзіла з тэрміновымі даручэннямі і «проста не хапіла часу».

Супрацоўнікі рэдакцыі газеты **«Рабочий»,** апытаныя намі, таксама не аказваюць патрэбнай дапамогі рэдкалегіям насценгазет і фабрычна-заводскім шматтыражкам.

Мы гутарылі з супрацоўнікамі прамысловага аддзела гэтай газеты. У аддзеле шэсць работнікаў. За выключэннем загадчыка аддзела тав. **Пашучэнка** ўсе астатнія таварышы амаль штодня бываюць на прадпрыемствах Менска. Выяжджаюць на прадпрыемствы і другіх гарадоў. Аднак, ні адзін з апытаных таварышоў не змог заявіць аб тым, што будучы на прадпрыемстве, ён спецыяльна цікавіцца работай насценгазет, дапамагае рэдкалегіям палепшыць работу.

Работнікі прамысловага аддзела газеты «Рабочий» добра ведаюць па некалькі рэдактароў насценгазет амаль на кожным буйным прадпрыемстве Менска. Ведаюць таму, што кожнаму работніку аддзела даводзіцца звязвацца з рэдактарамі насценгазет — лепшымі рабкорамі, але звязвацца толькі ў сувязі з выкананнем задання рэдакцыі.

Патрэбна работніку аддзела правесці рэйд па заводу — **ідзе ён к** рэдактару шматтыражкі, к рэдактарам насценгазет, уцягвае іх у брыгады рэйда. Трэба сабраць матэрыял для газеты—чаму-ж не пачытаць, што аб гэтым пытанні пішуць шматтыражка, насценгазеты.

Так расказвае загадчык аддзела т. **Пашучэнка,** супрацоўніца **Мядзведзева** і іншыя.

— Зразумела, хопіць часу для таго, каб кожны раз, калі бываеш на заводзе, аддаць гадзіну-другую рабоце цэхавай ці брыгаднай насценгазеты, правесці нараду рабкораў, зрабіць вусны агляд нумароў насценгазеты і нават дапамагчы рэдактару шматтыражкі правесці якое-небудзь мерапрыемства—гаворыць тав. Мядзведзева.—Прычына таго, што гэтага мы не робім, — у нас саміх, часткова і ў тым, што ад нас у рэдакцыі не патрабуюць аказання дапамогі нізавому друку.

Апошняя заўвага т. Мядзведзевай вельмі важна: рэдактар газеты, загадчык аддзела павінен цікавіцца тым, ці дапамагаюць работнікі рэдакцыі насценгазетам і рабкорам, яны павінны патрабаваць гэтага ад сваіх работнікаў.

Сказанае вышэй нельга, зразумела, аднесці да ўсіх работнікаў усебеларускіх газет. Сярод іх ёсць і такія таварышы, якія, будучы ў раёне, на прадпрыемстве, не мінаюць рэдакцыі раённай газеты, фабрычнай шматтыражкі, рэдкалегій насценгазет і аказваюць ім вялікую дапамогу.

Характэрны прыклад тав. Бажынскага, з рэдакцыі газеты «Орка». Тав. **Бажынскі,** не задумваючыся ні хвіліны, можа назваць дзесятак рэдактароў лепшых насценгазет польскіх нацыянальных калгасаў і даць падрабязную характарыстыку кожнага з іх. Адразу відаць, што чалавек пабываў у кожнага з названых ім рэдактароў, добра іх вывучыў, дапамог ім у рабоце.

Тав. Бажынскі вядзе перапіску з рэдактарамі насценгазет па пытаннях работы насценгазет, адказвае на пытанні рэдактароў, высылае ім макеты і т. д.

Гэтыя выдатныя прыклады на сёнешні дзень, на жаль, вельмі малаколькасныя.

З гутарак, праведзеных намі з работнікамі ўсебеларускіх газет, напрошваецца адзін вывад: дрэнна мы яшчэ дапамагаем раённым газетам, нізавому друку ў часе выездаў у раёны, у часе наведвання прадпрыемстваў. Чым хутчэй работнікі рэспубліканскіх газет ліквідуюць гэты недахоп, тым лепш.

# ПАГАВАРЫЦЕ З РЭДАКТАРАМ І РАБКОРАМ



Больш 8 месяцаў я рэдагую насценную газету **«Рэзец»,** 1-й групы токараў **завода імя Варашылава.** 86 нумароў газеты вышла за гэтыя 8 месяцаў «Рэзец» заваяваў першынства ў конкурсе нізавых газет.

Аднак, «Рэзец» яшчэ далёк ад такой газеты, якая-б магла паслужыць узорам для ўсяго нашага нізавога друку. Між тым на нашым заводзе, дзе ёсць вялікі актыў рабкораў, пачынаючых мастакоў-карыкатурыстаў, літгурткоўцаў, на заводзе, які амаль штодзень наведваюць работнікі цэнтральных газет, можна было-б выпускаць узорныя газеты.

У тым, што такіх насценных газет, па якіх мог-бы раўняцца ўвесь нізавы друк Менска, на заводзе няма,— вялікая віна нашых цэнтральных газет, якія вельмі мала дапамагаюць нам у штодзеннай практычнай рабоце.

Амаль кожны дзень на наш завод прыходзяць работнікі газет «Звязда», «Рабочий», «Окцябр», «Чырвоная змена». Яны прыходзяць арганізоўваць матэрыял па заданнях сваіх рэдакцый. Больш іх нішто не цікавіць. Ніколі не пачуеш ад работнікаў цэнтральных газет заўвагі аб заводскай шматтыражцы, нізавых газетах.

Вось я не магу назваць ні аднаго прозвішча карэспандэнта цэнтральных газет, хоць бываюць яны ў нас амаль кожны дзень. Хіба гэта не гаворыць аб дрэннай сувязі карэспандэнтаў цэнтральных газет з намі, работнікамі нізавога заводскага друку?

Я лічу, што вялікай цяжкасці не будзе для карэспандэнтаў цэнтральных газет прачытваць нашы штодзенкі і даваць свае заўвагі рэдактару, пагаварыць з рэдактарам нізавой газеты, даць яму напрамак у далейшай рабоце. Мне думаецца, гэта абавязак работніка цэнтральнай газеты, які бывае на заводзе.

**С. ПЛАТКОЎ.**

# Усе тыя-ж знаёмыя прозвішчы...



На 3-м усебеларускім з'езце рабселькораў дэлегаты фабрыкі «Окцябр» маглі расказаць з'езду аб тых дасягненнях, якія мы мелі ў рабоце з рабкорамі. Затое зараз пасля з'езда мы не можам гаварыць аб якіх-бы там ні было дасягненнях у рабоце пізавога друку і рабкораў фабрыкі. Усё гэта атрымалася таму, што работа з рабкорамі зусім занапала. **Аб семінары для рабкораў гаварылі многа, а ён і па сёнешні дзень не створан.** У шматтыражцы мы сустракаем усё тыя-ж знаёмыя прозвішчы: Рохкінд, Каган, Вярбіцкая, Барыбіна. Росту рабкораў няма.

Вялікую ролю павінен быў адыграць наш фабрычны друк па ўкараненню вопыту менжынцаў, але шматтыражка задаволілася толькі змяшчэннем пары заметак. Як вопыт менжынцаў, так і ўнутрыпартыйнае жыццё фабрыкі зусім не асвятляюцца ў нашых пізавых цэхавых газетах. Гэта тлумачыцца тым, што парторгі брыгад і цэхаў не кіруюць рэдактарамі, не арганізоўваюць работу з рабкорамі. Парторг 2 цэха т. **Грыншпан** лічыўся лепшым парторгам на фабрыцы, але і ён ні разу не напісаў заметку ў насценную газету. Парторгі брыгад **Вічынкіна, Шульман** і **Левіна** таксама мала ўвагі звараючаюць на работу газет і рабкораў.

Не лепшая справа з **рэагаваннем** на матэрыялы. 2 месяцы назад вышаў нумар шматтыражкі, прысвечаны нарадзе пры ЦК аб зніжэнні сабекошту. Шматтыражка тады пісала, што многія прапановы рабочых марынуюцца ў дырэкцыі, а яны адыгралі-б вялікую ролю ў зніжэнні сабекошту.

На гэты матэрыял тэхнічны дырэктар тав. **Немік** адказу не дала. Ясна, што ў гэтым вінавата не толькі шматтыражка, але і партком, які не патрабуе ад комуністаў рэагавання на сігналы друку.

Доўга не было ў нас і адказнага рэдактара шматтыражкі. Цяпер партком вылучыў рэдактарам тав. **Цукерман.** Тав. Цукерман чалавек палітычна падрыхтаваны, але зусім незнаёмы з газетнай тэхнікай.

Як-жа дапамагаюць новаму рэдактару і газеце цэнтральны друк і яго работнікі? Трэба сказаць, што вельмі дрэнна.

Газета «Окцябр» толькі к дню друку дала агляд нашай шматтыражкі і на гэтым паставіла кропку, а «Рабочий» і гэтага не зрабіў.

Я лічу, што цэнтральныя газеты павінны арганізаваць трыбуну па абмену вопытам работы рэдактароў фабрычна-заводскіх газет і дапамагаць ім у рабоце.

Неабходна наладзіць работу літаратурных гурткоў на прадпрыемствах з тым, каб літгурткоўцы прымалі актыўны ўдзел у газеце і дапамаглі зрабіць яе цікавай.

**КАГАН Ф. — рэдактар брыгаднай газеты фабрыкі «Окцябр».**

# Пара ад слоў перайсці да справы

З 1929 года я працую на швэйнай фабрыцы **«Окцябр».** І як старая рабкорка, увесь час прымаю актыўны ўдзел ў рабоце брыгадных штодзенак і шматтыражкі фабрыкі. Часта хацелася мне атрымаць ад старэйшых таварышоў — работнікаў цэнтральнага друку параду і дапамогу ў сваёй рабоце.

Аднак, гэта астаецца толькі жаданнем. Я пісала і пішу ў газету так, як магу. Часта пішу са стылістычнымі памылкамі, без усякай формы. І ніхто мне не гаворыць добра ці дрэнна напісан той ці іншы матэрыял. Семінара рэдактароў і рабкораў на фабрыцы няма. Аглядаў газет і разбору паасобных матэры-

ялаў ніхто не робіць. Як-жа нам, рабкорам, вучыцца?

З газеты «Рабочий» пару разоў прыходзіла да нас тав. **Пашучэнка,** якая тлумачыла нам, як пісаць у газету. Гэта дало некаторы зрух у рабоце нізавых газет фабрыкі. Але на гэтым вучоба наша і скончылася.

Нарэшце, я сама пачала часта наведваць рэдакцыю газеты «Рабочий» і прасіць дапамогі. Праўда, тт. Хейфец, Фішбейн і Пашучэнка, калі не звярнуся да іх, заўсёды мне дапамагаюць.

Але-ж не ўсе рабкоры могуць хадзіць за дапамогай у рэдакцыю, многім умовы работы не дазваляюць гэтага. Я лічу, што работнікам цэнтральных газет і журналаў неабходна прыходзіць на прадпрыемства не толькі для арганізацыі матэрыялу, але і для канкрэтнай і практычнай дапамогі газетам і рабкорам фабрыкі.

Ёсць у нас вялікае жаданне працаваць у бальшэвіцкім друку. Але мы не хочам больш саматужнічаць. Мы хочам, каб нас навучылі правільна і добра пісаць, каб мы сталі рабкорамі—аўтарамі нашых цэнтральных газет, а не пастаўшчыкамі фактаў.

На нашай фабрыцы ёсць шмат досыць здольных рабкораў. Такія рабкоры, як **Каган Файве, Кісялёва Ада, Мацыеўская Нюра, Вярбіцкая, Барыбіна** могуць стаць нядрэннымі работнікамі друку. Трэба толькі больш увагі аддаць гэтым людзям.

Трэба адзначыць, што адміністрацыя, партком і фабком нашай фабрыкі таксама не звараочаюць належнай увагі на нашы цэхавыя газеты і рабкораў.

Мы маем права патрабаваць, каб з намі лічыліся, каб нас вучылі і выхоўвалі. Семінар актыва рабкораў, які абяцала арганізаваць газета «Рабочий», павінен неадкладна пачаць сваю работу. Пара ад слоў перайсці да справы.

**Рабкорка фабрыкі «Окцябр»**
**Е. СПЕКТАР.**

# Больш увагі і дапамогі



Пачала я пісаць у газету яшчэ ў сямігодцы. Была тады і членам рэдкалегіі насценгазеты. Памятаю, як на кожную заметку, якая крытыкавала настаўніка і вучня, мы прымушалі рэагаваць.

Прайшло некалькі гадоў, я скончыла сямігодку, затым профшколу швэйнікаў. Уся мая вучоба была цесна звязана з рабкораўскай работай, з газетай.

У 1930 годзе профшкола накіравала мяне на швэйную фабрыку «Окцябр». У першы-ж месяц работы на фабрыцы мяне выбіраюць членам рэдкалегіі. З таго часу прымаю актыўны ўдзел у штодзенках і фабрычнай шматтыражцы. Пяць гадоў я рэдагавала штодзенку. Ніхто мне ў гэтым не дапамагаў, ніхто не вучыў мяне, як пісаць у газету. Працавала так як магла і на практычнай рабоце расла.

Вось ужо хутка год, як працую намеснікам рэдактара шматтыражкі. Але я павінна сказаць, што не магу як след арганізоўваць работу з рабкорамі. Партыйны калектыў мала аддае ўвагі нізавому друку і рабкорам. Рэдакцыя шматтыражкі не мае магчымасці сабраць рабкораў, правесці з імі семінар, прапрацаваць той ці іншы даклад, або, скажам, абмяняцца вопытам работы.

Часта звараочаешся да сакратара парткома т. **Канопіка** з просьбай дазволіць склікаць рэдактароў і рабкораў, каб абмеркаваць план шматтыражкі або іншыя пытанні. Але заўсёды атрымаеш адказ: «Сёння нельга». Фабрыка наша, хоць са значным спазненнем, але ўключылася ў вытворчы паход імя 18 гадавіны Октябра. Трэба мабілізаваць рабкораў і нізавы друк фабрыкі для сістэматычнага асвятлення ходу соцспаборніцтва і выканання ўзятых абавязацельстваў па вы-

творчаму паходу. Але тав. **Канопік** ніяк не можа дазволіць сабраць рабкораў.

У выніку газеты і рабкоры своечасова не ўключыліся ў вытворчы паход.

Трыкутнікі брыгад таксама не нясуць адказнасць за свае брыгадныя штодзенкі. Яны лічаць, што кіраваць рабкорамі і газетай — гэта абавязак толькі шматтыражкі. Парторгі Васіна, Фельдман, Бацвінік заяўляюць, што за работу насценных газет адказвае рэдактар шматтыражкі, а не яны. Партком-жа на гэта не рэагуе. У выніку нізавы друк фабрыкі пазбаўлен партыйнага кіраўніцтва.

Зусім мала дапамагаюць нам і работнікі цэнтральных газет.

Вось маленькі прыклад таго, як нам «дапамагаюць». 5 кастрычніка да нас прыйшла работніца з газеты «Рабочий» тав. **Мядзведзева** і заяўляе: «Нам патрэбен матэрыял па вытворчаму паходу імя 18 гадавіны Окцябра. Раскажыце, што ў вас робіцца». Гадзіны дзве яна ў нас распытвала аб рабоце па паходу і запісвала сабе ў блакнот.

— Гэтага мала, давайце пойдзем па цэхах і паглядзім, што там робіцца.

Пайшлі. Нарэшце, Мядзведзева скончыла сваю работу.

— Тав. Мядзведзева, — папрасілі мы яе, — зараз укажыце нам, як далей арганізоўваць работу па вытворчаму паходу і як усё гэта асвятляць у шматтыражцы?

Адказу мы не атрымалі. Мядзведзева пашла. Мы патрацілі цэлы дзень, дапамаглі работніку газеты «Рабочий» арганізаваць матэрыял па паходу, а вось самі дапамогі ад гэтага работніка не атрымалі.

**Работнік шматтыражкі фабрыкі «Окцябр» ХАЗАН.**

# Як мы звязаны з раённай газетай

Шматтыражка, цэхавыя насценгазеты і брыгадныя штодзенкі **Бабруйскага лесакамбіната** праводзяць немалую работу ў барацьбе за выкананне промфінплана. Мы маем немалы рабкораўскі актыў, на які шматтыражка апіраецца ў штодзеннай сваёй рабоце. Дзякуючы рабкораўскаму актыву мы заўсёды з поспехам праводзім работу па арганізацыі патрэбнага для газеты матэрыялу, праводзім на заводзе рэйды, арганізуем праверку рэагавання на змешчаныя ў газетах допісы.

Ва ўсёй нашай рабоце шмат дапамагае рэдакцыя бабруйскай раённай газеты **«Комуніст».** Прадстаўнікі райгазеты часта бываюць у нас на камбінаце, заходзяць у рэдакцыю шматтыражкі, цікавяцца нашай работай, даюць парады.

Асабліва вялікую дапамогу аказала нам газета «Комуніст» у часе падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Пры дапамозе рэдакцыі раённай газеты мы правялі тады на лесакамбінаце **рабкораўскі семінар,** праз які прапусцілі 75 рэдактароў і членаў рэдкалегій цэхавых штодзенак.

Больш за ўсіх з рэдакцыі «Комуніста» нам дапамагае загадчык аддзела пісем комсамолка тав. **Стрэлец.** Яна часцей за другіх работнікаў газеты бывае ў рэдакцыі шматтыражкі і дае ўказанні ў рабоце. Не так даўно, напрыклад, тав. Стрэлец зайшла да нас у рэдакцыю і расказала аб тым, што на фанерным заводзе імя Кірава праведзен спецыяльны партдзень па пытанню нізавога друку.

— Праведзены партдзень значна ажывіў работу нізавога друку ў кіраўцаў, — сказала яна.—Чаму-б і ў вас на лесакамбінаце не правесці такое мерапрыемства? Чаму-б і вам не правесці спецыяльны партдзень аб нізавым друку? Тады яшчэ лепш пачнуць працаваць вашы штодзенкі.

Мы паслухалі тав. Стрэлец і пры яе дапамозе разгарнулі зараз вялікую падрыхтоўчую работу да правядзення на лесакамбінаце партдня па пытанню ўзмацнення нізавога друку.



У цэхах завода імя Варашылава (Менск) выстаўлены спецыяльныя вітрыны для вывешвання брыгадных і цэхавых насценгазет. Фото Р. СІМХОВІЧА.

□□□

Перш за ўсё мы дабіліся пастановы парткома аб падрыхтоўцы і правядзенні гэтага партдня. Правялі нараду рабкораў і нараду парторгаў. Да 8 буйных цэхаў прымацавалі таварышоў з ліку партактыва камбіната, на якіх ускладзен абавязак—дапамагчы партгрупам і рэдкалегіям па падрыхтоўцы да партдня. Праведзена нарада комуністаў і комсамольцаў — рэдактароў штодзенак, нарада мастакоў і карыкатурыстаў. Сакратар парткома правёў гутарку з карэспандэнтамі-комуністамі. Мяркуючы па ходу падрыхтоўкі, думаем, што партдзень пройдзе добра і дасць вялікія рэзультаты ў паляпшэнні работы нізавога друку і рабкораў.

Газета «Комуніст» рэгулярна змяшчае на сваіх старонках матэрыялы абмену вопытам работы нізавога друку. Не так даўно на старонках «Комуніста» быў дан агляд нашай шматтыражкі. Гэта шмат дапамагло ў рабоце шматтыражкі.

Але ад газеты «Комуніст» мы хочам атрымаць лішчэ больш. У прыватнасці рэдакцыя павінна дапамагчы нам у друкаванні шматтыражкі. Справа ў тым, што наша шматтыражка выходзіць з друкарні заўсёды не раней, як праз 4—5 дзён. Калі, напрыклад, здаеш у набор матэрыял першага, то шматтыражка выходзіць 5—6 чысла. Вось мы здалі матэрыял у чарговы нумар 27 верасня, а 4 кастрычніка друкарня не пачынала лішчэ яго набіраць. Справа ў тым, што ў бабруйскай друкарні друкуюцца дзве раённыя газеты (Бабруйскага і Кіраўскага раёнаў), дзве шматтыражкі і шмат заказаў для розных устаноў і арганізацый. І вось, калі прыносіш у друкарню матэрыял шматтыражкі, заўсёды чуеш адно і тое-ж:

— Пачакайце вы са сваёй шматтыражкай, у нас ёсць больш важная работа...

Па некалькі раз прыходзіцца хадзіць, дзесяткі раз званіць па тэлефону ў друкарню і нічога не дапамагае. Выхад шматтыражкі затрымліваецца па віне друкарні. А гэта вельмі адбіваецца на аператыўнасці газеты, на зацікаўленасці да яе з боку рабочых.

Мы, вядома, не ставім так пытанне, каб друкарня набірала ў першую чаргу шматтыражку. Але і нельга-ж лічыць, што якія-небудзь бланкі або формы ўстаноў з'яўляюцца больш важнымі, чым заводская шматтыражка. А так, відаць, лічаць работнікі бабруйскай друкарні.

Рэдакцыя газеты «Комуніст», якая з'яўляецца гаспадаром бабруйскай друкарні, можа нам дапамагчы наладзіць нармальны выпуск шматтыражкі. Трэба прымусіць асобных работнікаў друкарні, каб яны больш добрасумленна адносіліся да друкавання шматтыражак. Пакуль што рэдакцыя газеты «Комуніст» нічога канкрэтна не зрабіла, каб дапамагчы нам у гэтай справе, не гледзячы на тое, што я некалькі раз звярачаўся за дапамогай у рэдакцыю.

**Рэдактар шматтыражкі «За ўдарныя тэмпы»**

**Х. Б. ГРЫНШТЭЙН.**

# „Дапамагі арганізаваць матэрыял“



Як рэдактар шматтыражкі, я не магу скардзіцца на адсутнасць увагі з боку цэнтральных газет. Прадстаўнікі іх штодзенна бываюць на заводзе і часта гавораць са мной. Іншая справа змест нашых гутарак.

1 кастрычніка пачалася ў нас здача дзяржаўнага тэхнічнага экзамена. На экзамене прысутнічалі тт. **Клепко** з газеты «Рабочий» і тав. **Сціпакова** з газеты «Окцябр». Тав. Сціпакова запісала ў свой блакнот аб ходзе экзамена і пайшла. Тав. Клепко сустрэла мяне і гаворыць:

— Тав. Мінкін, скажы тваю думку аб падрыхтоўцы да здачы дзяржаўнага тэхнічнага экзамена. Я выказаў тав. Клепко сваю думку, абышоў з ёю цэхі.

Месяц таму назад сустракае мяне т. **Мядзведзева** з газеты «Рабочий» такімі словамі:

— Тав. Мінкін, чаму гэта цябе трэба шукаць цэлы дзень. Дапамагі мне хутчэй арганізаваць матэрыял аб вопыце менжынцаў.

Дапамог я і тав. Мядзведзевай.

5 кастрычніка на завод прышла з газеты «Рабочий» тав. **Рай** па пытанню стаханаўскага руху. Гутарыла яна з дырэктарам тав. Дзюшыцам, з старшынёй заўкома тав. Флюксманам, а пасля сустракае мяне і гаворыць:—у цябе ў газеце мусіць таксама нічога няма аб стаханаўскім руху, трэба табе ўзяцца за гэту работу. А вось як узяцца, што рабіць канкрэтна, як асвятляць гэтае пытанне ў газеце — аб гэтым яна мне нічога не сказала.

Вось некалькі штрыхоў таго, як гутараць са мною і дапамагаюць мне работнікі цэнтральных газет.

У практыцы маёй работы яшчэ не было такога выпадку, каб работнік цэнтральнай газеты, які бывае на заводзе, пагутарыў-бы са мной аб рабоце шматтыражкі, параіў-бы, як трэба арганізоўваць тую ці іншую работу.

Не могуць гэтым пахваліцца і рэдактары насценных газет. Рэдактар газеты 2 хромавага цэха тав. **Плісак** гаворыць:

— Я працую рэдактарам з 1931 года. За гэты час я ні разу не атрымаў якую-небудзь дапамогу ад работнікаў цэнтральных газет. Калі і склікаліся нарады рэдактароў газетай «Рабочий», то вельмі рэдка. Аглядаў цэхавых і брыгадных газет на старонках цэнтральных газет ніколі няма.

Рэдактар газеты клеевараага цэха т. **Камшацкі** гаворыць тое-ж самае. На адсутнасць дапамогі ў рабоце скардзяцца і рэдактары другіх цэхавых і брыгадных газет.

Даволі напомніць, што за апошнія 3—4 месяцы на старонках газеты «Рабочий» не было ні аднаго агляду заводскай шматтыражкі. А колькі абяцанняў даваў тав. **Хейфец** на ўсебеларускай нарадзе рэдактароў фабрычна-заводскіх газет, скліканай перад III ўсебеларускім з'ездам рабселькораў, і на самім з'ездзе.

Абяцанні асталіся абяцаннямі, а дапамогі як не было, так і няма.

«Рабочий» надрукаваў умовы конкурсу на прадпрыемства суцэльнай тэхнічнай граматнасці, абвешчаны ЦСПСБ, Наркамлегпромам і газетай «Рабочий». Былі вызначаны прэміі для лепшых фабрычна-заводскіх газет. Конкурс скончыўся, лепшыя прадпрыемствы прэміраваны, у тым ліку і наш завод, які вышаў на першае месца і заваяваў пераходны сцяг. Заводскі друк адыграў вялікую ролю ў барацьбе за завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці. Аднак, ніхто не ўспомніў аб рабоце газет. «Рабочий» нават словам не заікнуўся аб лепшых і адсталочых газетах.

У далейшым неабходна, каб на старонках цэнтральнага друку, асабліва ў газетах «Рабочий» і «Окцябр» сістэматычна змяшчаліся агляды шматтыражак і штодзенак.

Надрэнна было-б даваць вусныя агляды газет на нарадах рэдактароў, якія

павінны часцей склікацца, а таксама пасылаць праз пошту заўвагі аб рабоце той ці іншай шматтыражкі.

Журналу **«Бальшэвіцкі друк»** разам з рэдакцыямі цэнтральных газет трэба ўзняць пытанне аб арганізацыі ў Менску Дома друку, дзе сканцэнтраваць усю работу з фабрычна-заводскімі газетамі.

У мэтах узняцця культуры рэдактара, а адсюль і газеты, карысна было-б час-ад-часу арганізоўваць сустрэчы рэдактароў заводскіх і цэхавых газет з інжынерамі, архітэктарамі, пісьменнікамі, артыстамі, мастакамі і т. д.

Неабходна, каб у часе наведвання ўпрадпрыемстваў работнікі цэнтральных газет цікавіліся заводскай газетай, дапамагалі скласці план, указвалі на недахопы газет і праводзілі гутаркі з рабкорамі.

**Рэдактар шматтыражкі завода «Большэвік» МІНКІН.**

# Адзін у трох асобах

Рэдактар газеты **«Голас спартакаўца»** (орган парткома КП(б)Б і фабкома шклоўскай фабрыкі «Спартак») т. **Харытонаў** крыўдзіцца на рабкора Кімстача.

— У цэнтральныя газеты піша, а сваёй фабрычнай чамусьці пагарджае.

Апраўдваць Кімстача было-б няправільна. Трэба пісаць і ў цэнтральныя і ў мясцовыя газеты. Але ці адзін Кімстач не піша ў фабрычную газету? На жаль, Харытонаў не можа пахваліцца сваім актывам. Калі-ж меркаваць па газеце, то гэтага актыва наогул няма. Вось узяць к прыкладу № 26 газеты. У ім з 14 змешчаных заметак 10 падпісаны рознымі псеўданімамі: ведаючы, знаёмы, сусед, рабочы, майстар, свой, лабарантка і т. д., а астатнія 4 заметкі належаць двум аўтарам — Матлінай і Медзвядоўскай. У нумары 24 толькі адна заметка падпісана сапраўдным прозвішчам, а астатнія 12 усё тымі-ж знаёмымі псеўданімамі: лабарантка, рабочы, свой і т. д. Хто хаваецца пад гэтымі псеўданімамі — няцяжка здагадацца — адзіны штатны работнік рэдакцыі.

Ці задумаўся рэдактар Харытонаў над пытаннем: чаму не пішуць рабочыя ў газету? Відаць, не. А варта было-б рэдактару больш самакрытычна паглядзець на сваю работу і ён-бы лёгка знайшоў адказ. **У газеце няма самакрытыкі.** Калі часам і з'явіцца нясмелай рукой напісаная заметка аб фабрычных недахопах, то ў большасці гэта крытыка абязлічаная, без указання прозвішча канкрэтных вінаватых. Вось, напрыклад, у газеце за 22 верасня змешчана заметка аб тым, што на фабрыцы правальваецца падрыхтоўка да зімы, што фабрычныя памяшканні патрабуюць рамонту, але да яго яшчэ не прыступалі. Аднак, хто ў гэтым канкрэтна вінават, газета далікатна абыходзіць. Яна іх проста назвала «адпаведнымі людзьмі», якія павінны «павялічваць тэмпы падрыхтоўкі».

Крытыкі недахопаў партыйнай работы, работы дырэкцыі на старонках газеты нельга знайсці. Між тым у партыйнай рабоце, напрыклад, шмат недахопаў: масава-выхаваўчая работа не разгорнута, палітвучоба дрэнна пастаўлена.

Чаму-ж маўчыць аб гэтым газета? Таму, што не можа-ж Харытонаў пісаць пра самога сябе. Ён-жа не толькі рэдактар, але адначасова і сакратар парткома і намеснік дырэктара фабрыкі. Адзін, можна сказаць, у трох асобах.

Ці не ясна зараз, чаму Кімстач і другія рабочыя не пішуць у газету, чаму на старонках «Голаса спартакаўца» не адчуваецца бальшэвіцкай самакрытыкі?

Словам «Голас спартакаўца» ў такім выглядзе, у якім ён зараз выходзіць, нельга назваць баявым органам партыйнай арганізацыі.

Здзіўляе, як гэта шклоўскі райком і яго газета **«Прамень комунізма»** на працягу сямі месяцаў церпяць такое становішча шматтыражкі на адзінай у раёне фабрыцы.

**Р. ДОДЗІН.**

# ГАЗЕТА „КОМУНІСТ“ ДАПАМАГЛА МНЕ

Я працую рэдактарам шматтыражкі **«Чырвоны швэйнік»**, бабруйскай швэйнай фабрыкі імя Дзержынскага, усяго некалькі тыдняў. На газетнай рабоце ўпершыню.

Пакуль што адчуваю некаторыя труднасці на гэтай рабоце. Я, напрыклад, слаба ведаю тэхніку газетнай справы. У пачатку не ведаў нават, як арганізаваць матэрыял для газеты, як арганізаваць работу сярод рабкораў фабрыкі. У першыя дні работы ў газеце я міжвольна задаваўся пытаннем: ці выйдзе што-небудзь, ці спраўлюся я з даручанай мне работай?

Але хутка гэтыя мае настроі рассеяліся. Да мяне на фабрыку прышла тав. **Стрэлец**—загадчык аддзела пісем раённай газеты **«Комуніст»**.

— Ты не бойся газетнай работы, — сказала яна мне, — калі што не ведаеш — навучышся, мы табе дапаможам.

І праўда, дапамаглі. Тав. Стрэлец і загадчык промаддзела «Комуніста» тав. **Гельфанд** дапамаглі мне скласці план работы шматтыражкі. Потым я разам з тав. Стрэлец правёў нараду рэдкалегій цэхавых насценгазет і рабкораў. Гэта нарада значна ажывіла работу насценгазет на фабрыцы. Апрача таго нарада дапамагла ў стварэнні рабкораўскага актыва вакол шматтыражкі.

Дзякуючы дапамозе раённай газеты, я з кожным днём усё больш уваходжу ў курс газетнай справы, усё больш авалодваю газетнай тэхнікай. І я ёю канчаткова аўладаю, бо я адчуваю штодзенную дапамогу з боку таварышоў з рэдакцыі раённай газеты.

Часамі ў працэсе работы ў мяне ўсплывае якое-небудзь пытанне. Тады я заходжу ў рэдакцыю «Комуніст», або проста па тэлефону пытаюся, і тт. Стрэлец і Гельфанд з ахвотай даюць мне ўказанні, парады.

У рэдакцыі «Комуніста» нядрэнна праходзіць тэхнічная вучоба, якая праводзіцца з 8 да 11 гадзін вечара кожную дэкаду. Думаю рэгулярна наведваць гэтыя заняткі. Гэта яшчэ больш дапаможа мне ў рабоце.

**Рэдактар шматтыражкі «Чырвоны швэйнік» В. С. ПАСТУШЭНКА.**

# Я ХАЧУ І БУДУ ЖЫЦЬ

Я стары селькор. Пачаў пісаць у газеты з 1927 года. У сваю раённую газету пішу з дня яе арганізацыі — з 1929 года. Паміма тэтага прымаю ўдзел у насценнай газеце свайго калгаса «Зара комуны». Быў доўгі час рэдактарам насценнай газеты. Я ўжо не гавару аб тым, што як комсамолец таксама прымала працаваў па розных даручэннях комсамольскай арганізацыі.

А зараз я не магу актыўна працаваць. Прычына гэтаму — цяжкая хвароба.

Чатыры гады назад я перахварэў на тыф з ускладненнем на галаву. Я аглух і анямеў. Можна ўявіць сабе, які гэта быў для мяне ўдар. Я быў у роспачы, не хацелася жыць на свеце вечным калекай. «Ну, каму я зараз патрэбен» — думаў я тады.

Але даведалася аб маім няшчасці рэдакцыя нашай раённай газеты **«Калгасная праўда»**. І як толькі даведалася, адразу дапамагла мне. Апрача таго, што рэдакцыя выдала мне грашовую дапамогу, РК КП(б)Б узняў перад Народным камісарыятам аховы здароўя хадайніцтва аб пасылцы мяне на лячэнне. Я быў паслан на курорт.

Адчуўшы такія клопаты аба мне, я вельмі ўзрадаваўся, у мяне зноў з'явілася жаданне жыць і працаваць. У гэтым годзе я еду на курорт другі раз. Я пачаў ужо гаварыць і крыху чуць.

У мяне туберкулёз. Але надзеі на жыццё я не трачу, бо аба мне клапоціцца і мой калгас, і рэдакцыя газеты, і кіруючыя раённыя арганізацыі, аба мне клапоціцца партыя і совецкая ўлада.

Я хачу і буду жыць. Я прынясу яшчэ нямала карысці нашай соцыялістычнай радзіме. **ШКУТКО ХВЕДАР.**

**Калгас «Зара комуны». Асіпавіцкага раёна.**

# Мая дапамога раённай газеце

Калі я скажу, што кожны журналіст, выязджаючы на раён, павінен дапамагаць раённаму і нізавому калгаснаму друку, спрачацца ніхто не стане.

Усе згодзяцца з тым, што рэдактар раённай газеты чакае ад карэспандэнтаў цэнтральных газет практычнай дапамогі. Але, аднак, вельмі рэдка ён гэту дапамогу атрымлівае.

Часта работнікі цэнтральнага друку прыязджаюць у раён і не лічаць патрэбным зайсці ў рэдакцыю раённай газеты. Ёсць і такія работнікі, якія заходзяць у рэдакцыю толькі для таго, каб «садраць» у раённай газеце факты аб становішчы ў тым ці іншым сельсовеце і напісаць карэспандэнцыю ў цэнтральную газету.

Я хачу расказаць аб сваёй сувязі з раённымі газетамі, селькорамі. Не так даўно мне прышлося быць у Чэрвені. У рэдакцыю газеты **«Калектывіст»** была ўзята з настаўніцкай работы тав. **Гехт.** Яна дрэнна спраўлялася з новай работай. Рэдактар т. **Пыко** гаварыў:

— Нічога не будзе з Гехт. Трэба яе зволіць.

Але Гехт старалася, працавала вельмі многа. А толку не было. Яна не ўмела арганізоўваць матэрыял. Я рашыў дапамагчы тав. Гехт і іншым работнікам рэдакцыі. Я, Гехт і Лівшыц выязджалі ў калгасы, арганізоўвалі матэрыял, а затым афармлялі яго на месцы, тут-жа ў калгасе. Раней яны рабілі так: збіраюць матэрыял у калгасе, а афармляюць яго ў рэдакцыі. А ў працэсе пісання артыкулаў яны знаходзілі, што ў іх не хапае фактаў. Афармляць-жа матэрыял на месцы, у калгасе, значна лепш. У гэтым работнікі ўпэўніліся на вопыце.

Пасля выхаду нумара газеты мы склікалі нараду, на якой падрабязна разбіралі артыкулы і заметкі асобных таварышоў, крытыкавалі іх. Гэтыя нарады потым былі ўзаконены. З рэдактарам т. Пыко, яго намеснікам тав. **Касоўскім,** сакратаром рэдакцыі я трымаў пастаянную сувязь.

Не парываю я сувязі і з рэдактарам насценнай газеты калгаса «Раванічы» **Казловым Алесем.** Ён, напрыклад, паведамляе аб тым, што рэдкалегія дабілася ад праўлення калгаса рэагавання на заметкі. А Казлоў-жа ў свой час хацеў кінуць селькораўскую дзейнасць— на яго было ганенне з боку праўлення калгаса. Я пабываў у яго дома. Мы з ім гутарылі гадзіны чатыры. І Казлоў заявіў:

— Буду і ў далейшым выкрываць тых, хто тармозіць работу ў калгасе.

Я практычна паказаў Казлову, як афармляць газету, аб чым пісаць і як арганізоўваць матэрыялы.

Старая **Масквіна** працуе ў кааперацыі. Яна пісала заметкі ў раённую газету. Гэта не спадабалася кіраўнікам кааперацыйных арганізацый Кармачову і Байбікову. Яны на кожным кроку праследвалі Масквіну. Яна звярнулася да мяне са скаргай. Я пагаварыў аб ёй у райкоме партыі. Разрадзілі атмасферу, якая была створана вакол Масквіной. І Масквіна зараз піша не толькі ў сваю раённую газету, але і ў «Звязду».

Аднойчы я атрымаў заданне ад кіраўніцтва рэдакцыі выехаць у Хоцімскі раён і праверыць, як ахоўваецца калгасны ўраджай.

Чаго прасцей: праехацца па калгасах, паглядзець і потым напісаць карэспандэнцыю. Я зрабіў не так. Дагаварыўся з рэдактарам раённай газеты т. **Лебедзевым,** і мы склікалі 25 чалавек селькораў і селькорак. І, не гледзячы на тое, што ў парадку дня стаяла адно пытанне — ахова калгаснага ўраджаю, селькоры задавалі ўсякія пытанні аж да таго, на якой машыне друкуецца «Звязда». Рэйд быў праведзен па калгасам трох сельсоветаў. Артыкул афармлялі разам. Зараз многія з удзельнікаў рэйда пішуць пісьмы ў газету «Звязда»; яны пішуць, як працуюць іх калгасы.

Я ўпэўніўся ў тым, што чым лепш мы дапамагаем рэдакцыям раённых газет, тым лягчэй нам выконваць заданні сваёй рэдакцыі. Я дапамагаю рэдакцыі раённай газеты ў яе рабоце, а рэдакцыя дапамагае мне выконваць мае заданні.

**А. МАНЬКОЎ.**

# АБ АГЛЯДАХ ДРУКУ
# НА СТАРОНКАХ РАЁННЫХ ГАЗЕТ

Б. ШПІТАЛЬНІК.

**«Агляды нізавых шматтыражак і насценных газет на старонках цэнтральнага, абласнога і раённага друку — адна з самых дзейсных форм кіраўніцтва» («ПРАВДА»).**

Нізавы друк на прадпрыемствах, у соўгасах і калгасах значна ўзрос. У рады рабселькораўскай арміі, у склад рэдкалегій насценных газет улёваюцца новыя атрады ўдарнікаў соцыялістычнай будоўлі. І гэтыя людзі, якія прымаюць актыўны ўдзел у нізавым друку, патрабуюць сур'ёзнай і сістэматычнай дапамогі, такой дапамогі, якая спрыяла-б ім зрабіць сваю насценную газету аператыўнай, праматнай і баявой — перавесці нізавую газету ў вышэйшы клас работы.

Зразумела, што гэтыя патрабаванні прад'яўляюцца ў першую чаргу раённым газетам. «Правда» ў сваім аглядзе друку «Задачы соўгасных і калгасных газет у новай абстаноўцы» досыць ярка гэта падкрэсліла. Яна ўказвала: **«Ужо хто-хто, а раённая-ж газета абавязана шчыльна займацца нізавым друкам, змяшчаць агляды, абагульваць і папулярызаваць станоўчы вопыт, указваць на памылкі, крытыкуючы, дапамагаць. І рабіць гэта сістэматычна».**

Задача, такім чынам, заключаецца ў тым, каб арганізаваць дзейсную сістэматычную дапамогу нізавому друку. Да гэтага нас абавязваюць канкрэтныя дырэктывы ЦК ВКП(б). У пастанове ад 13 сакавіка 1931 года «Аб сельскім і раённым друку» ЦК прапанаваў **«нападзіць сістэматычныя агляды раённага і нізавога друку ў рэспубліканскіх, краявых, абласных газетах, прыраўноўваючы гэтыя агляды па іх значэнню да перадавых рэдакцыйных артыкулаў».**

Мы прывялі гэтыя ўказанні ЦК ВКП(б) і «Правды», каб напомніць рэдактарам раду газет аб тым, што яны не выконваюць гэтых дырэктыў і недаацэньваюць палітычнай важнасці аглядаў нізавога друку.

**
*

Сіламі рэдактароў і памеснікаў рэдактароў раённых газет, якія займаліся на 2-месячных курсах перападрыхтоўкі пры КІЖ'ы БССР, праверany камплекты 28 раённых газет за тэрмін ад 2 з паловай да 3 месяцаў (чэрвень—жнівень).

Праверка паказала, што газеты Парыцкага, Бялыніцкага, Бешанковіцкага, Крычаўскага, Чавускага, Пухавіцкага, Ветрынскага, Шклоўскага, Асіпавіцкага, Жыткавіцкага, Дрысенскага, Старадарожскага, Чачэрскага, Лепельскага, Касцюковіцкага, Чашніцкага, Глускага, Дубровенскага раёнаў не змясцілі за гэты час ні аднаго агляду нізавога друку. Па аднаму агляду змясцілі газеты Хойніцкага, Тураўскага, Сіроцінскага, Буда-Кашалёўскага, Гарадоцкага раёнаў; ад 2 да 3 аглядаў — газеты Ушацкага, Бягомльскага раёнаў.

Вывад адсюль адзін — агляды нізавога друку з'яўляюцца надзвычай рэдкімі «гасцямі» на старонках раённых газет. І зло не толькі ў гэтым, але і ў тым, што і змяшчаемыя агляды вельмі часта надзвычай нізкай якасці, не павучальны, рад газет часта канстатуюць правал работы нізавых газет і не ўскрываюць прычын гэтага правалу. Часамі бывае і так, што прычыны гэтыя вядомы, але газета толькі фіксуе іх, а канкрэтных вывадаў для сябе, для далейшай работы не робіць.

Для пацвярджэння гэтай думкі прывядзем надзвычай характэрны агляд селькораўскіх пісем, змешчаны ў газэце «Прымежны калгаснік» (Ушацкі раён) і больш падрабязна яго разбярэм:

### «УЗМАЦНІЦЬ РАБОТУ НІЗАВОГА ДРУКУ»

**(Агляд селькораўскіх пісем)**

Добра пастаўленая работа нізавога друку дапамагае паспяхова справіцца з усімі сельска-гаспадарчымі кампаніямі. Але гэтага не жадаюць зразумець кіраўнікі калгасаў і рэдактары насценных газет.

Селькор **Балкоў** паведамляе рэдакцыю, што ў калгасе «Совецкая Беларусь, Гарбаціцкага сельсовета, за час веснавой сяўбы выпушчан толькі адзін нумар насценгазеты. **Рэдактар Кулінаў А. бяздзейнічае.**

Зусім спыніўся выхад газеты ў калгасе імя Сталіна, Глыбачанскага сельсовета. Рэдактарам з'яўляецца настаўнік **Барэйка,** які не дапамагае ў рабоце нізавога друку, спасылаючыся на адпачынак.

Толькі адзін нумар насценгазеты выпушчан у калгасе «Перамога», Усайскага сельсовета. Праўленне калгаса на чале з старшынёй **Дубко** не даацэньваюць важнасці бальшэвіцкага друку. Аб гэтым паведаміў селькор **Лесін.**

У брыгадзе № 6 калгаса «Новы шлях» (Глыбочка) быў выпушчан адзін нумар брыгаднай «штодзенкі». Аднак, прагульшчык Дубко Сымон сарваў газету за тое, што яна яго крытыкавала. Праўленне калгаса, ведаючы аб такіх фактах, мер не прыняла. Так пісаў селькор **Шалда.**

Да насценнай газеты калгаса «Першае мая» (Кублічы) прымацавана настаўніца **Есельсон,** якая ні аднаго разу не схадзіла ў калгас, каб наладзіць выпуск насценгазеты. У выніку чаго газета не выпускаецца.

«Ажывіць працу насценгазеты»— пад такім загалоўкам селькор **Закрэўскі** піша, што ў калгасе «Трактар» (Чэрэпоўшчына) за 1935 год ні аднаго нумара не выпушчана. Не выпускаецца насценгазета і ў калгасе «Чырвоная Зара» (Гарадзец). Адказны рэдактар **Корань Якаў** бяздзейнічае ў рабоце.

16 лютага 1935 года выпушчан апошні нумар насценгазеты ў калгасе «Новае жыццё», М-Далецкага сельсовета. Адказны рэдактар з-за сваёй бяздзейнасці больш ні аднаго нумара не выпусціў.

Рэдактар насценгазеты **Шабунь** Петра з калгаса «Будаўнік», Жарскага сельсовета, сваю бяздзейнасць тлумачыць тым, што калгаснікі не пішуць і т. д. Праўленне калгаса прымусіла яго выпускаць насценгазету.

У калгасе «Чырвоная зязда», Чэрэпоўшчынскага сельсовета, насценгазета не выпускаецца. Адказны рэдактар **Клоп Пётр** разам з праўленнем калгага не ўлічылі вялікай важнасці бальшэвіцкага друку. Калгаснікі абураны бяздзейнасцю праўлення і рэдкалегіі.

Нецярпімае становішча, калі ў калгасе «Першамайск» (Весніцк) адказным рэдактарам з'яўляецца **Аўласёнак Васіль** (ён-жа комсамольскі арганізатар) і за час веснавой сяўбы, прапалачнай, не выпушчан ні адзін нумар насценгазеты. Калгаснікі неаднаразова ставілі гэта пытанне на сходзе, але Аўласёнак і зараз працягвае сваю бяздзейнасць.

Не выпускаецца насценгазета ў калгасе «Чырвоная Баброва» (Зарачаны) толькі таму, што праўленне калгаса ігнаруе бальшэвіцкі друк.

Меліся факты, калі за п'янства прапусцілі старшыню калгаса, дык ён за гэта з адказнага рэдактара Кірпічонка зняў 3 працадні і з членаў па 2 працадні. Аб гэтым напісаў селькор **Кірпічонак.**

Прыведзеныя факты з усёй яскравасцю сведчаць, што на мясцах ні парторгі, ні настаўнікі не клапоцяцца аб рабоце нізавога друку. Задача ўсяго актыва сельсовета, дапамагчы наладзіць работу насценных газет» (№ ад 7 чэрвеня 1935 года).

(Стыль і арфаграфію агляду захоўваем поўнасцю **Б. Ш.).**

Такім чынам ушацкая газета пералічыла 12 калгасаў, у якіх насценгазеты не выходзяць. Як-жа рэдакцыя падышла да ацэнкі гэтага становішча? Яна, як пабочны наглядальнік, зафіксавала, што «рэдактар Кулінаў бяздзейнічае», «прагульшчык Дубко Сымон сарваў газету», «адказны рэдактар Корань Якаў бяздзейнічае» і т. д. і т. д. Рэдакцыя не задумалася над прычынамі, якія прывялі ў пералічаных калгасах да зрыву работы насценных газет, яна нават не надала спецыяльнага значэння фактам, якія былі паведамлены селькорамі аб зрывах газет са сцен за крытыку, аб штрафаванні рэдактара і членаў рэдкалегіі за змяшчэнне крытычных заметак у газеце і т. д. Газета недаацаніла палітычнага значэння пералічаных фактаў. Як можна так хладнакроўна паведамляць аб гэтых фактах, не вылучаючы іх асобна, каб узняць пытанне на прынцыповую вышыню

І дабіцца суровага пакараньня зажымшчыкаў самакрытыкі?

Трэба-ж было разумець работнікам ушацкай газеты, што ва многіх выпадках насценгазеты перастаюць выходзіць, работнікі нізавога друку становяцца пасіўнымі з-за таго, што яны падпадаюць ганеньням, а рэдакцыя раённай газеты іх не абараняе.

Мы невыпадкова спыніліся на прыведзеным аглядзе з ушацкай газеты. Далейшы матэрыял, змешчаны ў гэтай-жа газеце, упэўняе нас у тым, што работнікі **«Прымежнага калгасніка»** не разумеюць асноўных сваіх задач.

Прывядзем яшчэ адзін канкрэтны прыклад. «Прымежны калгаснік» 23 жніўня выступае зноў з артыкулам «Недаацэньваюць важнасці насцендруку» і ў такім-жа духу, як і ў аглядзе пісем, паведамляе:

«... У шмат якіх калгасах не зразумелі, альбо не хочуць зразумець тых вялікіх задач, якія стаяць перад насцендрукам у часе ўборачнай і хлебазагатоўчай кампаніі.

У калгасе «Новы шлях», Глыбачанскага сельсовета паміж брыгадамі не разгорнута соцспаборніцтва, дагаворы заключаны фармальна. Гэта бачна з таго, што ў брыгадах адсутнічае здзельшчына... Масавыя нявыхады калгаснікаў на работу моцна ўдараюць па калгаснай вытворчасці.

Гэтага аднак не замячае насценгазета. І не толькі ў гэтым, а наогул калгасная насценгазета зусім стала ў баку ад калгаснай работы. За час веснавой сяўбы былі выпушчаны толькі 2 нумары насценгазеты, а зараз спыніла свой выхад».

Кропка. У чым прычына таго, што газета спыніла свой выхад? Аб гэтым ні слова. І навошта работнікам «Прымежнага калгасніка» дакопвацца да прычын, глядзець, як кажуць, у корань. Важна паведамляць аб спыненні выхаду газет, ды не толькі ў адным калгасе.. Газета таму прадаўжае свае пералічэнні:

«У другім калгасе «Чырвоны барацьбіт» такое-ж становішча. Тут з самага пачатку арганізацыі калгаса нават не маецца рэдкалегіі. Калі калгаснікі гавораць, што трэба нарэшце наладзіць выпуск насценгазеты, то старшыня калгаса Максенка заяўляе: «У нас няма аб чым пісаць».

У калгасе імя Сталіна ёсць і адказны рэдактар Барэйка і рэдкалегія, але няма насценгазеты. За час веснавой сяўбы і ўборачнай не выпушчана ні аднаго нумара насценгазеты».

І рэдакцыя грозна заключае:

«Нельга цярпець такога становішча з насцендрукам па гэтых калгасах».

Згаджаемся з вамі, таварышы з «Прымежнага калгасніка», што «нельга цярпець такога становішча». Але законна паставіць вам пытанне: чаму-ж вы церпіце? Напомнім для яснасці, што пра насценгазеты калгасаў «Новы шлях» і імя Сталіна вы пісалі ўжо ў чэрвені.

А церпіце вы таму, што мала задумваецеся над пытаннем аб арганізацыі сістэматычнай дапамогі нізавому друку. К чаму было вам некалькі раз прыводзіць столькі фактаў аб зрыве работы нізавых газет і ні па аднаму з гэтых фактаў не разабраць усебакова і глыбока прычын, якія прывялі газеты да такога становішча? Калі-б на прыкладзе работы **адной** рэдкалегіі, **адной** насценгазеты былі ўсебакова ўскрыты ўсе недахопы і паказаны канкрэтныя шляхі іх ліквідацыі, гэта-б навучыла другіх рэдактароў, як трэба правільна працаваць. Трэба зразумець, што задача раённых (і другіх) газет вучыць, а не камандаваць.

## Недахопы аднаго агляду

Мы ўжо вышэй адзначалі, што значная частка аглядаў нізавога друку, якія змяшчаюцца ў раённых газетах, стаіць на нізкім узроўні. Прывядзем адзін характэрны і для другіх газет, агляд нізавога друку ў бягомльскай газеце **«Калгасны змагар»** і разбяром яго недахопы.

(Поўнасцю захоўваем стыль і арфаграфію агляду **Б. Ш.**).

**«ГАЗЕТА ЗРАЗУМЕЛА СВАЕ ЗАДАЧЫ»**

Праглядаючы нумары насценнай газеты «Ударнік калгасных палёў» калгаса «Чырвонае Бярэзіна», трэба прама сказаць, што газета зусім правільна зразумела пастаўленыя перад ёй задачы. Яна з нумара ў нумар змагаецца за выкананне гаспадарча-палітычных кампаній. З дня ў дзень вядзе барацьбу за павышэнне ўраджайнасці, за зберажэнне калгаснага ўраджаю і за добрую падрыхтоўку к уборачнай кампаніі, паказваючы лепшых ударні-

каў і ганьбуючых лодыраў і прагульшчыкаў.

З № 12 ад 9 чэрвеня газета рэгулярна пачынае асвятляць ход падрыхтоўкі к уборачнай кампаніі. Яна піша:

**«Ад своечасовай падрыхтоўкі к уборцы будзе залежыць своечасовае і добраякаснае правядзенне ўборкі ў самыя кароткія тэрміны і найхутчэйшае выкананне збожжапаставак перад дзяржавай».**

Далей газета паказвае, што зроблена і што неабходна зрабіць.

У апошнім нумары газета асабліва заастрае ўвагу калгаснікаў на хутчэйшае заканчэнне сенаўборкі і пераключэнне ўсёй рабочай цяглавай сілы на ўборку збожжавых культур.

**«К 20-му ліпеня,—піша газета, —мы павінны цалкам закончыць сенаўборку, пасля чаго пераключыць усю рабочую, цягавую сілу на ўборку каласавых культур і выйсці па ўборцы ў рады перадавых калгасаў у раёне, а не плясціся ў хвасце».**

У тым-жа нумары газета паказвае лепшых ударнікаў сенаўборкі. Па першай брыгадзе: Ралёнак Ціхон, Захарэвіч Васіль, Недбайла Васіль, Ралёнак Паўла; па другой брыгадзе: Захарэвіч Іван і 77-гадовы старык Манькові Кандрат і ў трэцяй брыгадзе: Цяцерскі Васіль, Сецко Васіль, Ралёнак Іван. Гэтыя людзі сапраўды паказваюць прыклады ўдарнай работы, перавыконваюць нормы выпрацоўкі і не маюць ні аднаго прагула.

Нараду з лепшымі ўдарнікамі газета выкрывае і зрыўшчыкаў сенаўборкі. Да такіх калгаснікаў, як Казлоўская Стэпка, Казлоўская Алеся, Казлоўская Жэня, якія не выходзяць на работу, газета патрабуе ад праўлення прыняцця неадкладных захадаў.

Немалую ўвагу зварачае газета і на ахову калгасных ураджаяў.

**«У сучасны момант, — піша газета, — ахова соцыялістычнай ураджайнасці з'яўляецца галоўнейшай задачай нашага калгаса і калгаснікаў. На пасаду вартавых патрэбна вылучыць самых лепшых калгаснікаў, ударнікаў апраўдаўшых сябе на працы. Лодыры, прагульшчыкі і кулацкія падпявалы павінны быць адстранены ад аховы ўраджая, памятаючы, што недапусціўшы раскрадвання і страт у час уборкі значна павысіцца вага працадня калгасніка».**

Уважліва з нумара ў нумар газета сочыць за зберажэннем конскага пагалоўя. Заметкі, выкрываючыя дрэнную работу конюхаў, можна знайсці амаль у кожным нумары.

**«Конюхі Сецко М. І. Бегляд П. —піша газета — коней на начлезе не гледзяць. Цэлую ноч коні ходзяць дзе ім падабаецца, ад чаго можа здарыцца несчасны выпадак».**

Далей газета падымае пытанне, што ў будаўнічай брыгадзе (брыгадзір Пунтус) абмулілі каня «Шаршэнь» і вінаватага ў гэтай справе няма.

Газета «Ударнік калгасных палёў» выходзіць рэгулярна і дастаўляецца ў кожную брыгаду і ў час абедзенага перарыву прачытваецца сярод калгаснікаў. Уважлівая і клапатлівая работа рэдактара газеты Мылёнка Івана і нашага селькора Захарэвіча далі магчымасць своечасова калгасу падрыхтавацца к уборачнай кампаніі і закончыць сенакашэнне к 20 ліпеня.

Работа рэдкалегіі калгаса «Чырвонае «Бярэзіно» павінна стаць здабыткам усіх рэдкалегій калгасных насценных газет». **(«Калгасны змагар» №** 79-417, 24 ліпеня 1935 г.)

**
*

У чым недахопы гэтага агляду?

Агляд друку, як мы ўжо вышэй адзначалі, павінен ускрываць сутнасць работы нізавой газеты, павінен даваць ацэнку рабоце, паказваць станоўчы вопыт або ўскрываць тыя ці іншыя недахопы. Карацей кажучы, агляд друку павінен вучыць, як трэба і як не трэба працаваць.

Добра зрабіла рэдакцыя «Калгаснага змагара, што паказала насценгазету са станоўчым вопытам работы, бо, звычайна, раённыя газеты мала гавораць аб станоўчым. Але як паказан вопыт работы «Ударніка калгасных палёў?». Амаль ніякага вопыту тут няма.

Адзіна каштоўным з'яўляецца ў аглядзе прыведзены вопыт таго, што насценгазета дастаўляецца ў кожную брыгаду і ў час абедзенага перапынку прачытваец-

ца сярод калгаснікаў. Гэта сапраўды заслугоўвае ўвагі, і трэба было не паскупіцца і больш падрабязна расказаць чытачам, як дастаўляецца газета ў брыгады, яе ўплыў на калгаснікаў і т. д. Было-б нават вельмі каштоўным, калі-б агляд быў пабудаван пад гэтым пунктам гледжання.

Што-ж датычыць астатняга вопыту насценгазеты, яго ў аглядзе, на жаль, няма. Аб рабоце «Ударніка калгасных палёў» настолькі агульна сказана, што рэдактару другой насценнай газеты нічога немагчыма пачэрпнуць. У аглядзе, напрыклад, сказана (4 абзац):

**«Далей газета паказвае, што зроблена і што неабходна зрабіць».**

Чаму-ж у аглядзе не паказана, як насценгазета гэта паказвала? 27 радкоў займае ў аглядзе адно пералічэнне прозвішчаў прыкладных і няпрыкладных калгаснікаў. Што дае такое простае пералічэнне прозвішчаў, калі гэта не падмацоўваецца канкрэтным паказам таго, што можна было-б назваць прыкладным і наадварот? І, зноў-такі, было-б больш каштоўным, калі-б газета прысвяціла спецыяльны агляд таму, як насценгазета паказвае сваіх лепшых і горшых калгаснікаў. І паказаць гэта ў аглядзе так, каб кожны рэдактар насценгазеты змог на ім вучыцца.

Істотным недахопам агляду з'яўляецца тое, што ён закранае шэсць паасобных пытанняў: а) ход падрыхтоўкі да ўборкі; б) барацьбы за быстрэйшае сканчэнне сеяўборкі; в) аб прыкладных калгасніках і зрыўшчыках; г) аб ахове калгаснага ўраджаю; д) аб калгасных конях і е) аб дастаўцы насценгазеты ў брыгады.

Зусім зразумела, што як-бы аўтар агляду не дамагаўся, у яго нічога не атрымаецца, апрача агульных разважанняў і пераскокаў з аднаго пытання да другога. Між тым, самым важным і каштоўным з'яўляецца разбор аднаго якога-небудзь пытання з работы рэдкалегіі насценгазеты, але разбор поўны, які ўскрывае сутнасць гэтай работы, крытыкуе і вучыць.

Чаму ў значнай сваёй частцы агляды нізавых газет на старонках раённых газет з'яўляюцца неканкрэтнымі? Гэта бывае ў асноўным па наступнай прычыне: замест таго, каб у якасці аб'екта для агляду ўзяць адзін які-небудзь участак работы і расказаць аб ім поўна, канкрэтна і ясна, аўтары аглядаў бяруць усю дзейнасць насценгазеты і пачынаюць распісваць: «газета таго-та не зрабіла, газета абышла такія-та пытанні і т. д.».

«ПРАВДА» ў свой час досыць ярка ўказала на гэта. Яна пісала:

**«Змясціць падрабязны агляд, у якім прывесці цытаты, пацвярджаючыя правільнасць асноўных указанняў, даць падрабязны аналіз зместу насценнай газеты палітаддзельская газета з-за невялікага фармату часта не можа. Пагэтаму ў ёй прыходзіцца абмежавацца агульнымі ўказаннямі на тэму, што насценгазета павінна рабіць і чаго не павінна.**

**Ці не ясна, што агляд, складзены такім чынам, ужо не з'яўляецца аглядам у прамым сэнсе гэтага слова? Ці не ясна, што сваёй мэты — крытыкуючы, вучыць і дапамагаць, — такі агляд звычайна не дасягае? Ці не лепш—больш часта практыкаваць крытыку паасобных памылковых заметак, надрукаваных у насценнай газеце. Або расказаць аб добрым вопыце сцяноўкі».**

Недаацэнка гэтых указанняў «Праўды» прывяла да таго, што прыведзены намі агляд з газеты «Калгасны змагар» атрымаўся неканкрэтным і пагэтаму мала каштоўным.

Прычына неканкрэтнасці аглядаў нізавых газет крыецца і ў тым, што агляды складаюцца (у пераважнай сваёй большасці) на матэрыяле толькі газетнага ліста. Аўтары перад складаннем аглядаў не бываюць на месцы ў калгасе, не вывучаюць абстаноўкі, у якой выходзіць насценгазета, не ведаюць дэталёвага становішча калгаса, брыгады, дзе выходзіць насценгазета. Зразумела, што пры адсутнасці канкрэтных даных аб становішчы ў калгасе, брыгадзе агляд будзе агульным, непавучальным. Толькі дасканалае вывучэнне ўмоў работы, становішча на месцы і самога газетнага ліста дае магчымасць напісаць агляд, які сапраўды будзе вучыць і выхоўваць кадры работнікаў нізавога друку.

Да ўсяго газетнага матэрыялу і асабліва да аглядаў друку прад'яўляецца патрабаванне, каб яны былі напісаны граматна, каб над імі працавалі добра, каб мова была жывой, памятаючы, што на гэтых матэрыялах будуць вучыцца чыта-

чы, будуць вучыцца работнікі нізавога друку.

Ці адказвае гэтым запатрабаванням вышэйпрыведзены намі агляд? Не зусім. Ён напісан суха і не зусім граматна. Да дзесятка разоў паўтараюцца словы «нумар», «з нумара ў нумар», «з дня ў дзень»; у аглядзе шмат канцылярскіх і няграматных зваротаў: «Пратлядаючы нумары насценгазеты...», «трэба прама сказаць, што газета...», «у апошнім нумары газета асабліва завастрае ўвагу калгаснікаў на хутчэйшае заканчэнне сенаўборкі і пераключэнне ўсёй рабочай, цягавай сілы...», «нараду з лепшымі ўдарнікамі газета выкрывае і зрыўшчыкаў сенаўборкі», «далей газета падымае (?) пытанне, што ў будаўнічай брыгадзе (брыгадзір Пунтус) абмулілі каня «Шаршэнь» і вінаватага ў гэтай справе няма» і т. д.

Не лішнім будзе ў сувязі з гэтым прывесці крытычныя заўвагі «Правды» ў аглядзе «Язык с точки зрения». «Правда» пісала:

**«Што трэба для таго, каб масавы чытач зразумеў газетны матэрыял?**

**— Ну, вось таксама знайшлі пытанне, — скажуць хорам работнікі. — Трэба пісаць проста і зразумела, пазбегнуць доўгіх сказаў, занадта разумных выразаў, замежных слоў...**

**Залатыя думкі. Пісаць трэба іменна так. Усе рэдактары разумеюць гэта добра. Тым не менш, вельмі часта... паступаюць наадварот. Аб самых звычайных рэчах людзі ўхітраюцца расказаць такой мовай, што зразумець гэтыя звычайныя рэчы не змогуць і акадэмікі».**

Гэтыя ўказанні «Правды» не ў броў, а ў вока пападаюць многім работнікам нашых раённых газет, якія безадказна адносяцца да літаратурнай апрацоўкі газетнага матэрыялу і зневажаюць чытачоў сваіх газет.

**
*

Мы хацелі-б у гэтым артыкуле спыніцца яшчэ на адным тыпу аглядаў, які пачынае заваёўваць месца на старонках некаторых раённых газет — гэта аб тыпу аглядаў, якія ставяць сваёй мэтай у парадку інфармацыі прывесці той ці іншы факт і прыклады з вопыту работы насценнай газеты.

Газета **«Ленінскі шлях»** (Горацкі раён) час-ад-часу пад рубрыкай **«Па насценных газетах раёна»** прыводзіць паасобныя факты і прыклады з вопыту работы насценных газет. У нумары ад 3 жніўня газета расказвае, што «насценная газета... калгаса «Праўда»... увяла цікавы аддзел — **«Сёння ў калгасе»...** Газета ў гэтым аддзеле паведамляе: «30 ліпеня ў калгасе адчынены дзіцячыя яслі, у якіх будзе знаходзіцца 40 дзяцей»; «29 ліпеня ў калгасе закладзена сіласу 20 тон» і т. д.

Такі тып аглядаў мае таксама вялікае значэнне. З іх дапамогаю ўзмацняецца сувязь раённай газеты з насценнымі, пашыраецца лепшы вопыт нізавых газет і расшыраецца самая тэматыка райгазеты.

Такія агляды павінны змяшчацца сістэматычна, а не выпадкова. Гэта будзе ўзнімаць работу нізавых газет.

**
*

**Кожны работнік газеты павінен вучыцца на матэрыялах нашай «Правды». Агляды друку «Правды» — гэта ўзоры канкрэтнасці, палітычнай завостранасці, чоткасці і жывасці мовы.** Кожны агляд друку «Правды» канкрэтна **вучыць работнікаў друку** рабоце, усебакова ўскрывае недахопы, дае недахопам і памылкам чоткую ацэнку, жорстка крытыкуе памылкі і вучыць таму, як трэба правільна працаваць. Тэматыка аглядаў «Правды» актуальна і багата.

Такімі-ж павінны быць агляды нізавога друку і ў нашых раённых газетах. Толькі такія агляды з'явяцца канкрэтнай дапамогай рэдактару калгаснай, брыгаднай, цэхавай насценгазеты.

# Гісторыя адной памылкі

□ □ **М. ЛІБЕРМАН.** □ □

У радзе гарадскіх і раённых газет выдаюцца спецыяльныя яўрэйскія старонкі.

Гэтыя старонкі, згодна пастановы **ЦК КП(б)Б.** павінны друкавацца адзін раз у пяцідзёнку. Але-ж некаторыя рэдакцыі не выконваюць гэтага ўказання. Такія вялікія газеты, як **«Палеская праўда»**, **«Віцебскі пролетарый»**, **«Комунар Магілеўшчыны»** і інш., друкуюць яўрэйскія старонкі толькі адзін раз у 10 дзён і радзей.

Не будзем многа гаварыць адносна задач, якія стаяць перад яўрэйскімі старонкамі ў раённых газетах. Яны павінны асвятляць жыццё яўрэйскіх працоўных мас, мясцовых палітасветных і культурных устаноў, якія працуюць на яўрэйскай мове—словам абслугоўваць на роднай мове, выхоўваць масы працоўных яўрэяў.

Але не ўсе яўрэйскія старонкі спраўляюцца з гэтай задачай. Яны часта бяруць не па сіле шырокі размах, стараючыся замяніць у сваім горадзе або раёне яўрэйскую цэнтральную газету. «Палеская праўда» запаўняе часта тры чвэрці сваей яўрэйскай старонкі, якая выходзіць адзін раз у 10 дзён, матэрыяламі, перадрукаванымі з іншых газет.

Так, напрыклад, у нумары за 29 верасня мы знаходзім артыкул «Антырэлігійнае выхаванне ў школе» (300 радкоў), які перадрукован цалкам з рэспубліканскай яўрэйскай газеты Украіны **«Штэрн»**. «Выпадкова» ў «Палескай праўдзе» не ўказан аўтар артыкула (С. Хаскілевіч) і крыніца—газета «Штэрн». У гэтым-жа нумары мы знаходзім яшчэ адзін артыкул (300 радкоў), перадрукаваны з газеты **«Эмес»**, 18 верасня ў яўрэйскай старонцы «Палескай праўды» яшчэ больш перадрукаванага матэрыялу. Тут мы знаходзім і вялікі антырэлігійны артыкул (200 радкоў), узяты з газеты «Эмес», пісьмо знатных людзей Сталіндорфскага яўрэйскага нацыянальнага раёна, перадрукаванае з газеты **«Октябр»** (таксама 200 радкоў). Апавяданне «Наша дзяўчынка» Р. Шварцкопа (300 радкоў), перадрукаванае з газеты «Штэрн».



Лепшы рабкор-ударнік і рэдактар насценгазеты тав. Браўдэ за фрэзерным варштатам (завод імя Варашылава, Менск)

□□□

У газеце за 7 верасня мы знаходзім 4 матэрыялы, перадрукаваныя з розных яўрэйскіх газет (усяго 450—500 радкоў) і толькі 4 заметкі з мясцовага жыцця.

Ці не ясна, што яўрэйская старонка гомельскай газеты не адпавядае тым задачам, якія стаяць перад ёю.

Яшчэ горш з яўрэйскай старонкай газеты «Комунар Магілеўшчыны». У нумары за 31 верасня мы знаходзім артыкул «Сур'ёзны экзамен». Падпісан гэты артыкул **Н. Г.** (работнік яўрэйскай старонкі **Н. Гантман).** Гэты артыкул цалкам перадрукован з газеты «Эмес» за 16 верасня і аўтарам яго з'яўляецца **М. Рашкес.** Змяшчэнне гэтага артыкула за подпісам Н. Г. з'яўляецца самым бессаромным **плагіятам.**

Зараз разгортваецца асенняя антырэлігійная кампанія. У гэту кампанію ўключыліся таксама раённыя газеты і іх яўрэйскія старонкі. У большасці яўрэйскіх старонак гэта кампанія зведзена да друкавання артыкулаў размаху цэнтральнай газеты.

«Віцебскі пролетарый» у нумары за 10 кастрычніка надрукаваў вялікі артыкул тав. **Гарачыкава:** «Разгарнуць апаратыўна антырэлігійную работу». Гэты артыкул пачынаецца так:

> **«Рэлігія — астаткі рэлігійных звычак з'яўляюцца часткай тых элементаў, якія павінны быць удаляны ў працэсе ліквідацыі астаткаў у эканоміцы і ў свядомасці чалавека».**

Астаткаў чаго—газета так і не напісала. А атрымалася гэта таму, што тав. Гарачыкаў, перапісваючы гэты сказ з другога абзаца перадавой газеты «Эмес» за 4 верасня, выпусціў словы: «астаткі капіталізма».

Замест таго, каб адразу, назаўтра-ж надрукаваць папраўку, калі ўжо такая агідная памылка прайшла на старонкі газеты, «Віцебскі пролетарый» чакаў **10 дзён,** пакуль вышаў чарговы нумар яўрэйскай старонкі.

І вось за гэтыя 10 дзён палітычна-няправільная фармулёўка ў яўрэйскай старонцы віцебскай газеты, не будучы своечасова выпраўлена, перакачавала ў іншыя раённыя газеты. Работнік яўрэйскай старонкі **«Калгасніка Мазыршчыны»,** не саромеючыся, перадрукаваў 12 верасня гэты артыкул з «Віцебскага пролетарыя», трохі перарабіўшы яго на свой лад. Памянёная цытата з «Віцебскага пролетарыя» надрукавана ў «Калгасніку Мазыршчыны» ў наступнай рэдакцыі:

> **«Перад пролетарыятам стаіць сусветная гістарычная задача — канчаткова ліквідаваць класы, АСВОІЦЬ АСТАТКІ ў эканоміцы і свядомасці чалавека, пабудаваць социялістычнае грамадства».**

І гэта, па сутнасці контррэволюцыйная, фармулёўка, сцвярджаючая, што задачай пролетарыята з'яўляецца асваенне, гэта значыць захоўванне і развіццё астаткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, слепа перадрукоўваецца ў яўрэйскіх старонках іншых газет.

Работнік яўрэйскай старонкі **«Комунара Магілеўшчыны»** па старой традыцыі сваёй узяў нажніцы, выразаў цалкам увесь артыкул з газеты «Калгаснік Мазыршчыны» і надрукаваў яго 20 верасня разам з палітычна-варожай фармулёўкай.

З «Комунара Магілеўшчыны» перадрукавала цалкам гэты артыкул яўрэйская старонка бабруйскага **«Комуніста»** за 24 верасня. Нават і загаловак той-жа, што і ў газеце «Комунар Магілеўшчыны».

Да сённяшняга дня ні адна з гэтых газет не дала нават папраўкі.

Гэта сведчыць толькі аб тым, што рэдактары «Віцебскага пролетарыя» тав. **Фрэйдлін,** «Калгасніка Мазыршчыны» тав. **Козінцаў,** «Комунара Магілеўшчыны» тав. **Гусарэвіч,** «Комуніста» тав. **Столін** не займаюцца яўрэйскімі старонкамі ў сваіх газетах, перадаверылі рэдагаванне гэтых старонак палітычна-няграматным, а часта і неправераным людзям. Агіднейшая, палітычна-шкодная фармулёўка ў яўрэйскіх старонках магла з'явіцца толькі ў выніку прытуплення большэвіцкай пільнасці рэдактароў гэтых газет.

З гэтага агіднага выпадку павінны зрабіць для сябе рашучыя вывады і рэдактары газет і райкомы партыі—умацаваць нацыянальныя старонкі ў сваіх газетах палітычна-граматнымі, вытрыманымі, праверанымі работнікамі, сістэматычна правяраць і кіраваць іх работай.

За нацыянальную старонку рэдактар газеты адказвае, як і за ўсю газету, незалежна ад таго, ведае ён ці не ведае яўрэйскую або польскую мову.

# Як распаўсюджваецца комуністычны друк за межамі

Д. СНЕЖКО.

Якія толькі сродкі не ўжывае азвярэлы фашызм для таго, каб знішчыць комуністычны друк.

У фашысцкай Германіі Гебельс пакляўся панесці комуністычнаму друку смяротны ўдар. Суды выносяць катаржныя і смяротныя прыгаворы за работу ў нелегальных друкарнях, за распаўсюджанне, чытанне і хаванне комуністычных газет.

У Кітаі гаміндаваўскія каты жывымі закапалі ў зямлю ўсіх супрацоўнікаў газеты, рабочых друкарні і ўсіх, каго злавілі за распаўсюджаннем і чытаннем любімай рабочымі газеты «Шанхай бао».




«Падпісвайцеся на «Трыбуну»—заклікае плакат падпольнай газеты комуністычнай партыі Галандыі.

Ва Францыі, дзе «**Юманітэ**» выходзіць легальна, за яе распаўсюджанне ў арміі аддаюць ваеннаму суду і ссылаюць на катаргу.

І так ва ўсіх краінах, дзе пануе капітал. Аднак, не гледзячы на такі раз'юшаны тэрор супроць пролетарскага друку, комуністычныя газеты выходзяць рэгулярна і карыстаюцца велізарным поспехам у рабочых.

У так званых «легальных» умовах (Францыя, Англія, ЗША, Швецыя, Нарвегія, Канада і інш. краінах), ва ўмовах глыбокага падполля (Германія, Польшча, Італія, Аўстрыя, Іспанія, Румынія, Літва, Латвія і т. д.) жыве і мацнее комуністычны друк. Расце яго ўплыў на новыя тысячы рабочых. Новыя сотні і тысячы рабочых праз друк звязваюцца з партыяй, становяцца ў рады барацьбітоў супроць фашызма, за адзіны рабочы фронт пролетарыяў. Гэтаму дапамагае добра арганізаванае распаўсюджанне комуністычнага друку.

Французская «**Юманітэ**» арганізоўвае спецыяльныя агітгрупы па распаўсюджанню газеты. Гэтыя групы, у склад якіх уваходзяць добраахвотнікі рабочыя, ходзяць у рабочых кварталах з двара ў двор, арганізоўваюць там агітвыступленні і распаўсюджваюць

камуністычныя газеты. Самі рабочыя прасоўваюць сваю газету і ў рабочыя масы, і ў масы сялянства.

Створаныя рабочымі Францыі ў адказ на частыя рэпрэсіі, канфіскацыі, забароны і штрафы **камітэты абароны «Юманітэ»** займаюцца таксама і распаўсюджаннем газеты. Гэтыя камітэты маюць асобныя групы з рабочых розных прадпрыемстваў, якія і распаўсюджваюць «Юманітэ» на сваіх прадпрыемствах—у сталовых, уборных, курылках, часамі нават і каля самых уваходных варот на тэрыторыю прадпрыемства.

Кожны рабкор «Юманітэ» з'яўляецца і распаўсюджвальнікам сваёй газеты. Фашысцкія «малойчыкі» распраўляюцца з распаўсюджвальнікамі легальнай «Юманітэ». У гэтым ім дапамагае паліцыя.

Гаспадары фабрык і заводаў Францыі звальняюць усіх тых, хто не толькі распаўсюджвае, але і тых, хто чытае «Юманітэ».

У Грэцыі на частцы тэрыторыі было зусім забаронена распаўсюджанне ЦО кампартыі Грэцыі **«Рызаспасціс».** Некаторы час нават было забаронена перасылаць «легальную» «Рызаспасціс» па пошце. За 5 гадоў супрацоўнікі і распаўсюджвальнікі «Рызаспасціса» былі асуджаны ў агульнай колькасці на 220 гадоў турмы і на суму больш аднаго мільёна драхм штрафу.

Так распаўсюджваецца камуністычны друк у краінах, дзе камуністычны друк выходзіць у так званых «легальных» умовах. Што-ж гаварыць пра ўмовы распаўсюджання камуністычнага друку ў фашысцкіх краінах!

У Германіі ў адным Берліне выдаецца штомесячна 110 розных камуністычных газет з тыражом больш як 100 тысяч экземпляраў. У іх распаўсюджанні германскія камуністы і камсамольцы праяўляюць шмат гераізму, вынаходлівасці і спрыту.

Нелегальныя камуністычныя газеты, надрукаваныя на папяроснай паперы, укладваюцца ў кішэні ў месцах масавага скаплення людзей—на біржах працы, на вакзалах, у чаргах. Нелегальныя газеты ўкладваюць у фашысцкія газеты ў грамадскіх чытальнях, кафе, цырульнях. Нелегальныя газеты часта знаходзяць у скрынках для пісем, або падкінутымі пад дзверы. Рабочыя часта знаходзяць нелегальныя газеты ва ўборных, у сваіх шафачках на прадпрыемствах, у кішэнях сваёй вопраткі, якая ў часе працы астаецца ў раздзявальні.

Па германскаму паштоваму закону даплатное пісьмо, якое мае зваротны адрас (адрас адпраўніцеля), у выпадку недастаўкі дастаўляецца назад адпраўніцелю. Часта такія «недастаўленыя» пісьмы з нумарамі нелегальных газет прыносяць паштальёны ў дамы тых, хто ніколі не адпраўляў гэтых пісем.

У трамваях, у аўтобусах, у тэатрах, у забытых фашысцкіх газетах, у забытых тэатральных праграмках ляжаць нелегальныя **«Ротэ фанэ»** і інш. газеты.

Пачкі нелегальных лістовак падвязваюць на спецыяльна-прапітанай нітцы да шара, які пускаюць у паветра. Праз некаторы час, калі шар падняўся ўжо высока, нітка, якая падтрымлівае груз, рвецца і лістоўкі газеты рассыпаюцца і ляцяць зверху ўніз.

З дахаў шматпавярховых дамоў, з балконаў тэатраў у час, калі гасне


Neuer Weltkongreß sammelt die Kräfte des Friedens!
Einheit
Der Friede bedroht Hitler!
Brief an das deutsche Volk!

«Ангайт» («Адзінства»)—газета антыфашысцкага фронту ў Аўстрыі.

свет у зале, часта дажджом ляцяць свежыя нумары газеты комуністычнай партыі Германіі.

Немагчыма ў кароткім артыкуле прывесці ўсе тысячы прыкладаў гераічнай работы па распаўсюджанню друку ў Германіі.

Тайная паліцыя Германіі праяўляе вялікую вынаходлівасць у прымяненні новых метадаў праследвання рэволюцыйнага друку, але гэта параджае ўсё новыя і больш удалыя метады і формы барацьбы, за якімі ніяк не ўгоняцца боязлівыя сабакі фашызма.

У гамінданаўскім Кітаі знайшлі такі метад распаўсюджання друку. Газету распісваюць уночы на сценах дамоў, агарож. Раніцой каля сцен вырастае натоўп, які нявельмі лёгка паліцыі разагнаць. Даходзіць часамі да сутычак. Вокладка некаторых комуністычных выданняў робіцца падобнай на вокладку якой-небудзь вельмі лёгкага жанру літаратуры, якая хутка распрадаецца. А ў сярэдзіне — нелегальная газета.

У Манчжурыі, калі каго зловяць пры распаўсюджанні нелегальных газет і літаратуры, забіваюць на месцы.

Большасць нелегальных кітайскіх выданняў друкуюцца на множыцельных апаратах па тэксту, напісанаму рукой. Такія газеты распаўсюджваюцца ў канвертах па пошце.

У Галандыі, калі пасля амстэрдамскіх падзей быў забаронен комуністычны друк, компартыя звярнулася да ўсіх рабочых з адозвай **«Трыбуна—у небяспецы»**, у якой заклікала арганізаваць збор сродкаў на падтрыманне «Трыбуны» і арганізаваць камітэты абароны цэнтральнага органа партыі, якія-б адной са сваіх задач ставілі распаўсюджанне нелегальнай **«Дэ трыбуне»**. І першыя нумары нелегальнай «Дэ трыбуне» былі распаўсюджаны надрукаванымі на ратататары ў тыражы, перавышаючым тыраж легальнага выдання.

Распаўсюджанне нелегальнага друку—справа, якая заўсёды звязана з рызыкай быць арыштаваным і кінутым у казематы, нават і ў тых краінах, дзе афіцыяльна комуністычны друк выходзіць у легальных умовах. У Ліоне (Францыя) за распаўсюджанне «Юманітэ» ў казармах быў прыгаворан да 5 год катаржных работ комсамолец **Ю.**

У Германіі сотні рабочых атрымалі па 8—10 год за распаўсюджанне нелегальных газет. У Балгарыі зверскі расправаўляюцца з тымі, каго затрымліваюць пры распаўсюджанні комуністычных газет. Газета **«Міжрабсельнор»** расказвае аб выпадку, калі 4 рабочыя, затрыманыя пры распаўсюджанні комуністычных газет, былі замучаны ў засценках балгарскага ўрада, а потым праз некалькі месяцаў было паведамлена, што яны самі пакончылі жыццё самагубствам.

У такіх умовах распаўсюджваецца комуністычны друк у капіталістычных краінах. Не гледзячы, аднак, ні на якія пагрозы і зверскія расправы, комуністычны друк усё больш і больш пранікае ў рабочыя масы і натхняе іх на барацьбу супроць фашызму, супроць вайны за адзіны рабочы фронт.

---

*Цана 50 кап*



**АДКРЫТА ПАДПІСКА НА ДВУХТЫДНЁВЫ ЖУРНАЛ**

# „БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК“

**ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б**

Журнал разлічан на партыйны актыў, работнікаў райкомаў і гаркомаў, цэнтральных, раённых, гарадскіх, палітаддзельскіх, фабрычна-заводскіх і транспартных газет і рабселькораў-ударнікаў БССР.

Асноўны змест журнала: пытанні партыйнага кіраўніцтва друкам, агляды друку і распрацоўка розных пытанняў штодзеннай работы друку (формы і метады масавай работы газет, пытанні падрыхтоўкі кадраў, арганізацыя работы ўнутры рэдакцыі і т. д.) абмен вопытам работы газет.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:** **на год—12 руб., на 6 мес.—6 руб. на 3 мес.—3 руб.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ва ўсіх паштовых аддзяленнях БССР ў ліс

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА І РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 63.**
**Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“**